© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018




# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 9(80) Верасень 2000 September Год выд. 8.


## Шчыра вітаем 24-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнае Амэрыкі і жадаем плёну ў працы ды выдатнае весялосьці ўдзельнікам...





**Спадарыня Надзя МІЦКЕВІЧ-КАСМОВІЧ —**

**знаная нацыянальна-грамадзкая дзеячка ў Нямеччыне, асабліва ў ваколіцах Штутгарту, ведамая прапагандыстка беларускае незалежніцкае ідэі, палымяная патрыётка свайго народу.**

**Дарагая Надзя! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.**



# Падарожжа асуджаных

Мікалай ХАЛЕЗІН

**У гэтым годзе восень пачалася ўвесну. Лета ня здарылася. Не пасьпелі сьціхнуць масавыя акцыі незадаволеных жыцьцём гараджанаў, як улада прапанавала ім шлях выхаду са складзенага становішча – выбары ў дзіўную структуру пад назвай "палата прадстаўнікоў", памылкова названую ў народзе "парлямэнтам". Існьці па гэтым шляху аказалася гэтак сама прыемна, як гуляць у "русскую рулетку" зь пісталетам, зараджаным сямю баявымі патронамі.**

## Галасуй, не галасуй...

У нашае краіне выбары ніколі не ўдаваліся. Ці то галасавалі ня так, ці то галасы падлічвалі ня тыя. Атрымлівалася як у працоўных з "нумарнога" завода – будавалі бульбаўборныя камбайны, а заўсёды атрымлівалася атамная бомба. У выніку выбараў па-беларуску парлямэнт нязьменна меў азыслы чырвона-карычневы твар, увенчаны ліловым носам.

Калі ў застойныя гады 99,9% савецкіх выбарнікаў наведвалі буфеты на выбарчых участках і ня мелі па вялікім рахунку ніякага ўяўленьня пра тое, куды яны выбіраюць і каго, дык у часы перабудовы ўсё зьмянілася. Альбо дакладней амаль усё. Мы зразумелі, што можна выбіраць вартых людзей, якія будуць да апошняй кроплі крыві адстойваць нашыя інтарэсы. Праўда, падлічвалі нашыя галасы тыя ж, хто і раней. А таму і ў парлямэньце засядалі тыя, хто адстойваў інтарэсы чырвонамордай намэнклатуры да апошняй кроплі крыві. Нашае крыві.

Потым мы сталі жыць у прэзыдэнцкай рэспубліцы, адзіны раз шчыра прагаласавалі і падлічылі галасы. Як высьветлілася пазьней, гэта было нашай самай вялікай памылкай ў найноўшае гісторыі Беларусі. Мы прагаласавалі за тое, каб больш ня мець магчымасьці выказваць свае думкі. Не, выказваць мы можам, толькі ўлічваць іх цяперашняя ўлада не плянавала й не плянуе.

З тых часоў прайшло шэсьць год. Шэсьць год, скрадзеных у нас уладай. Мы прыйшлі да таго, з чаго пачалі – да адзінай радасьць ад выбараў – да наведваньня на выбарчым участку буфета зь кіслым півам, мятымі апяльсінамі і халоднай гатаванай курыцай.

Паўгады таму АБСЭ сфармулявала чатыры ўмовы, пры выкананьні якіх Лукашэнка мог разьлічваць на прызнаньне эўрапейскімі структурамі парлямэнта, што выбіраецца:
- спыніць перасьлед асобаў нязгодных з уладай і выпусьціць з турмаў палітзьняволеных;
- прадаставіць права заканадаўчае ініцыятывы парлямэнту;
- унесьці зьмены ў выбарчы кодэкс;
- забясьпечыць доступ апазыцыі да дзяржаўных СМІ;

Пасьля таго, як Аляксандар Лукашэнка праігнараваў гэтыя ўмовы, удзел апазыцыі ў парлямэнцкіх выбарах страціў усялякі сэнс. У лепшым выпадку Лукашэнка пусьціў бы ў "палатку" 5-10 дэмакратычных кандыдатаў і распавёў пухлымі вуснамі Зімоўскага пра тое, што "насельніцтва апазыцыі ня хоча".

У тым, як сёньняшняя ўлада ўмее праводзіць плебісцыты, мы пераканаліся ў 1996 годзе, калі, па вэрсіі ўладаў, каля 80% беларусаў выказаліся за тое, каб мясцовыя кіраўнікі не выбіраліся, а прызначаліся. Наступныя сацыялягічныя апытаньні прадэманстравалі, што якраз каля 80% насельніцтва прагаласавалі за выбарнасьць мясцовае ўлады. Такая самая гісторыя здарылася з пытаньнем пра ценевы бюджэт краіны, што знаходзіцца ў руках адзінага чалавека – Аляксандра Лукашэнкі.

Сёньня ўлады жадаюць толькі адно – правесьці парлямэнцкія выбары, прызнаныя эўрапейскімі структурамі. Але калі праводзіць гэтыя выбары па правілах, дык, улічваючы сацыялягічныя апытаньні, у заканадаўчым органе апынецца працэнтаў шэсьцьдзесят дэмакратаў. І тады сёньняшняя ўлада можа даставаць з сейфа пісталет з адным патронам. Таму Лукашэнка прапануе эўрапейскім структурам гульню "у палітычныя напарсткі", выйграць у якой эўрапейцы ня здолеюць, нават калі будуць ведаць пад якім напарсткам знаходзіцца шарык.

Калі АБСЭ прышле на выбары назіральнікаў, дык нават з парушэньнямі яны будуць прызнаныя. Менавіта так адбылося ў Азэрбайджане, Казахстане, Кіргізіі… І тады ў наступным годзе нас можа чакаць адзін з двух сцэнараў.

<u>**Першы:**</u> Лукашэнка праводзіць у наступным годзе прэзыдэнцкія выбары па звыклым для нас сцэнары, і беларускім грамадзянам тлумачаць, што ў першым туры перамог кандыдат ад дыктатуры, які набраў 73%. **І яшчэ пяць год…**

<u>**Другі:**</u> Легітымізаваная Эўропай "палатка" уносіць зьмены ў канстытуцыю і замацоўвае за парлямэнтам права абіраць прэзыдэнта краіны па прыкладзе Чэхіі і іншых дэмакратычных дзяржаваў. **І яшчэ ўсё жыцьцё…**

Прагназуючы такі вынік, апазыцыя і прыняла адзінае правільнае рашэньне – байкатаваць выбары бяз выбара.

Адзіная пазыцыя дэмакратычных сілаў паставіла ўлады ў далікатнае становішча, - каб стварыць ілюзыю ўдзела апазыцыі ў выбарах, прыйшлося "засьвяціць" усіх сваіх прыхільнікаў, клапатліва замаскіраваных "пад дэмакратаў".

Некаторыя, нават недзяржаўныя, газэты застракаталі рубрыкамі "раскол" і назвамі "Апазыцыя ідзе на выбары". І першае, і другое сьцьверджаньне адпавядаюць рэчаіснасьці толькі ва яўленьні галоўных рэдактараў гэтых газэтаў.

Калі напачатку газэты выдавалі за апазыцыю

(Далей гл. на стр. 3-ай)

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.


Фота IREX/ProMedia



# Абаронім незалежнасць нашай дзяржавы

«Наша Свабода»

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**У Мінску прайшоў Усебеларускі з'езд, на якім быў прыняты ўсяго адзін дакумент – Акт Незалежнасці. Гэта свайго роду дэкларацыя суверэнітэту краіны як галоўнай умовы існавання ды развіцця чалавека і ўсяго грамадства Беларусі. Таму суверэнітэтам нельга гандляваць ні ў якіх мэтах. Паказальна, што акт прыняты з'ездам, які правялі не апазіцыйныя партыі, тым больш не ўлада, а прадстаўнікі, так бы мовіць, незалежнай грамадскасці. Што разглядаецца як прапанова мець нарэшце і ў нас хоць адну агульную каштоўнасць.**

Улады вуснамі міністэрства юстыцыі яшчэ напярэдадні абвесцілі з'езд нічога не вырашаючым сходам грамадзянаў, усе рашэнні якога не будуць мець ніякай юрыдычнай сілы. Паводле вызначанага курсу дзейнічалі і дзяржаўныя СМІ. Прыкладам, БТ такой падзеі не заўважыла ўвогуле, там усе наяўныя творчыя сілы аказаліся кінутымі на жніво і рэкламу чарговага прэзідэнцкага падарунка беларускаму народу – лядовага палаца ў Брэсце. Затое тры асноўныя каналы расійскага тэлебачання чамусьці брэсцкім лёдам не зацікавіліся і асвятлілі вынікі Усебеларускага з'езда. Прычым асвятлілі даволі шырока. НТВ дык зрабіла нават два асобныя рэпартажы, яўна скарэктаваўшы ў другім танальнасць рэпартажу на карысць з'езда. Праўда, расіяне зноў не здолелі адарвацца ад сваіх стэрэатыпаў. Паказваючы бел-чырвона-белы сцяг, яны абавязкова кажуць пра апазіцыю і нацыяналістаў, абавязкова шукаюць праявы антырускасці і не супакойваюцца нават, калі іх не знаходзяць. Удзельнікі з'езда ў падачы расійскіх журналістаў былі тымі, хто "супраць саюза з Расіяй".

Між тым, з'езд задумваўся і яго ўдалося правесці менавіта як акт волевыяўлення прадстаўнікоў народа, як дэманстрацыя прагі беларусаў быць не супраць кагосьці, а за Беларусь. Моц гэтай падзеі ў тым, што, не зважаючы на сімпатыі ці антыпатыі да пэўных палітыкаў і палітычных канцэпцыяў, акрэслены нейкі агульны для ўсіх набор каштоўнасцяў, што складаюць падмурак беларускага светапогляду, усёй будоўлі пад назвай Беларусь. Тое, што асноўным каменем гэтага падмурка з'яўляецца НЕЗАЛЕЖНАСЦЮ, не ёсць вынаходніцтва з'езда, прызналі ягоныя ўдзельнікі. У гэтым сэнсе яны выстройвалі гістарычны ланцужок ад 27 ліпеня 1990 года, калі была прынятая дэкларацыя аб суверэнітэце Беларусі, праз супярэчлівую гісторыю стагоддзя да 25 сакавіка 1918 г.

З гэтага дня абвяшчэння БНР і далей у часы ВКЛ, у глыбіню вякоў, калі на тэрыторыі сучаснай Беларусі ўзніклі першыя дзяржаўныя ўтварэнні. Дзякуй Богу, з'езд не стаў гістарычнай канферэнцыяй ці сходам ветэранаў Аршанскай ды іншых слаўных перамогаў над знешнімі ворагамі. Спыніліся на тым, што пакуль народ Беларусі змагаўся за незалежнасць, ён заставаўся народам, што незалежнасць – здабытак не толькі сённяшніх пакаленняў беларусаў, але таксама і мінулых, а галоўнае, будучых, і таму нікому не дадзена распараджацца гэтай каштоўнасцю як таварам. Шмат і грунтоўна казалі пра сённяшні цяжкі для беларускасці час, пра тое, што ўлады не дапамагаюць ратаваць мову, што на ўскрайку прагрэсу апынулася эканоміка, што маючыя ўладу палітыкі, каб захавацца, гатовыя прынесці ў закланне суверэнітэт краіны. Адсюль лагічным выглядала рашэнне з'езда заявіць, што ніякі дзяржаўны орган нават праз рэферэндум не ў праве ні з кім заключаць саюзы, якія б пазбавілі Беларусь яе незалежнасці.

Гэты прынцып быў абвешчаны ад імя прадстаўнікоў беларускага народа.

Вось крыху статыстыкі. Усяго на з'езд былі вылучаныя ад працоўных калектываў, сходаў жыхароў, палітычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў 1.452 дэлегаты, з іх у з'ездзе ўдзел прынялі 1.350.(Заўважу пры гэтым, што аргкамітэт не ствараў перашкодаў да вылучэння, аднак кваціраваў колькасць прадстаўнікоў. І яшчэ важны момант – у працэсе падрыхтоўкі з'езда ўлады хутчэй перашкаджалі, чым дапамагалі, але варта адзначыць, што перашкодаў непасрэдна ў мінулую суботу не чынілася). З усіх дэлегатаў ад Мінска на з'езд прыбыло 568 і ад кожнай вобласці – ад 104 да 166 пасланцоў. Мандатная камісія з'езда абвесціла, што былі прадстаўленыя 102 з 117 раёнаў Беларусі (да ведама, у лукашэнкаўскім Нацыянальным сходзе не прадстаўленыя больш за палову выбарчых акругаў, аднак прадстаўніцтва ад раёнаў адпаведнае з'езду). Інфармацыя пра тое, як прадстаўленыя палітычныя партыі на з'ездзе, не гучала, і, здаецца, спецыяльна такі ўлік не вёўся. Партыі ўвогуле не дамінавалі на з'ездзе, і нават партыйныя лідэры на ім не выступалі. Кіравалі з'ездам і натхнялі прысутных з прэзідыума вядомыя дзеячы культуры і навукі – паэт Генадзь Бураўкін, паэт Ніл Гілевіч, акадэмік Радзім Гарэцкі, вядомы гісторык Анатоль Грыцкевіч , паэт Рыгор Барадулін. Большасць з іх выступіла з дакладамі, а таксама з прамовамі звярнуліся старшыня БХК Таццяна Працька, экс-прэм'ер Міхаіл Чыгір, кіраўнік "Гарадзенскай ініцыятывы" Сямён Домаш, намеснік старшыні "Грамады" Аляксей Кароль. Таксама былі зачытаныя прывітанні да з'езда ад Васіля Быкава, Сямёна Шарэцкага, Івонкі Сурвілы і асобнае пасланне Зянона Пазьняка. Усе гэтыя пасланні дэлегаты ўспрымалі як знакавыя і адказвалі на іх уставаннем ды авацыямі. Гэтак жа было сустрэтае і адмысловае пасланне чэшскага прэзідэнта Вацлава Гавела, які вітаў дэлегатаў як пасланцоў народа, што адстойвае дэмакратычныя каштоўнасці. На з'ездзе, дарэчы, прысутнічалі шмат хто з замежных дыпламатаў і нават кіраўнікоў місіяў – амбасадар Францыі Бернар Фасье, часовы паверааны Чэхіі Алеш Фойцік, пасол Польшчы Марыюш Машкевіч, амбасадар Украіны Анатоль Дронь і іншыя дыпламаты. Гэта безумоўна сведчыць пра тое, што замежнікі не абмяжоўваюць сябе зваротамі толькі да палітыкаў, а хочуць пачуць і голас народа. Магчыма, яны ідэнтыфікавалі прамовы прадстаўнікоў нацыянальна свядомай эліты Беларусі з голасам народа і нават зрабілі выснову, што большасць жыхароў гэтай краіны мысляць і дзейнічаюць па-еўрапейску і хочуць жыць у сяброўстве з усімі суседзямі па еўрапейскім доме. Але галоўнае, каб паразумеліся паміж сабой мы, беларусы. Усебеларускі з'езд пры ўсёй умоўнасці ягонай усебеларускасці такі шанец дае. Выкарыстаем?

...Беларусамі сёньня не нараджаюцца, а становяцца...

*Аляксей Каўка*

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ ПА-ЛУКАШЭНКАЎСКУ

**Ліпень** — традыцыйны месяц адпачынкаў і палітычнага зацішша, вось ужо каторы год на Беларусі такім не зьяўляецца. Менавіта на ліпень прыпадае сьвята абвяшчэньня Беларусі незалежнай дзяржавай (27) і дзень сканчэньня тэрміну легітымнасьці як прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі (21). Сёлета ў ліпені прайшлі Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі (2) і Усебеларускі зьезд за незалежнасьць (29). І менавіта ў ліпені (13) А.Лукашэнка назваў дату чарговых парламенцкіх выбараў на Беларусі — 15 кастрычніка. Больш за год вяліся перамовы паміж дэмакратычнай апазіцыяй і ўладамі пры пасярэдніцтве прадстаўніцтва АБСЕ наконт беларускага выбарчага заканадаўства і ўдзелу апазіцыі ў выбарах. 7 красавіка гг. АБСЕ былі сфармуляваныя чатыры ўмовы дзеля правядзеньня законных, справядлівых і свабодных выбараў на Беларусі. Вось яны: пашырэньне функцыяў і паўнамоцтваў парламенту, забесьпячэньне рэальнага доступу палітычнай апазіцыі да дзяржаўных СМІ, прывядзеньне выбарчага заканадаўства ў адпаведнасьць да еўрапейскіх стандартаў і, апошняе, устанаўленьне клімату палітычнага даверу, што азначае спыненьне палітычных рэпрэсіяў і забесьпячэньне свабоды мірных сходаў і свабоды слова. На Кангрэсе дэмакратычных сілаў, у працы якога прынялі ўдзел усе апазіцыйныя партыі і рухі, была прынятая сьпецыяльная рэзалюцыя "Пра адносіны да выбараў", дзе яшчэ раз было адзначана, што толькі пасьля выкананьня вышэйзгаданых умоваў дэмакратычныя сілы прымуць удзел у парламенцкіх выбарах. У выпадку іх невыкананьня "Кангрэс лічыць немагчымым удзел у выбарах партыяў і арганізацыяў, што ўваходзяць у Каардынацыйную Раду дэмакратычных сілаў" і заклікае "міжнародныя арганізацыі, парламенты і ўрады дэмакратычных краінаў заявіць, што ў выпадку невыкананьня гэтых умоваў выбары ў Беларусі ня могуць быць прызнаныя легітымнымі і дэмакратычнымі".

Ніводзін з вызначаных АБСЕ і падтрыманых беларускай апазіцыяй пунктаў уладамі ня быў выкананы. Не было зроблена нават ніякіх захадаў дзеля гэтага. Ужо год як нелегітымны А.Лукашэнка праігнараваў іх і проста прызначыў дату выбараў. Пэўна, гэткім чынам ён прадэманстраваў сваю незалежнасьць ды самастойнасьць... Далей, выступаючы па Нацыянальным тэлебачаньні 22 ліпеня, памочнік А.Лукашэнкі С.Посахаў адкрытым тэкстам заклікаў выбаршчыкаў "ня даць апазіцыі прайсьці ва ўладу любымі спосабамі", а 26 ліпеня А.Лукашэнка прызначыў старшынёй Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі В.Чыкіна — даўняга ворага апазіцыйных і дэмакратычных сілаў, лідэра пралукашэнкаўскай Камуністычнай партыі Беларусі, якая адзіная пакуль абвясьціла пра свой удзел у выбарах. Такім чынам шлях апазіцыі ў электронныя СМІ, бо нацыянальны тэлеканал адзін на Беларусі, заблакаваны. Дзеяньні "незалежнага ад міжнароднай грамадзкай думкі" А.Лукашэнкі цалкам зразумелыя: для яго галоўнае любым чынам захаваць уладу. Сітуацыя ў краіне сёньня такая, што пры любым раскладзе свабодныя, роўныя, дэмакратычныя выбары ён прайграе. Народ стаміўся слухаць ягоныя абяцаньні ды запалохваньні. А дэмакратычныя, законны парламент, відавочна, адразу ж паставіць пытаньне наконт паўнамоцтваў прэзідэнта...

Што ж тычыцца дзесяцігодзьдзя з дня прыняцьця Дэкларацыі аб Незалежнасьці Беларусі, якое адзначалася 27 ліпеня, дык гэтае, галоўнае сьвята любой дзяржавы, беларускія ўлады ў каторы раз праігнаравалі. Больш за тое, зрабілі ўсё, каб апазіцыйныя партыі і рухі не маглі афіцыйна адзначаць яго. Заяўкі на правядзеньне 27 ліпеня мітынгаў, пікетаў, народных гуляньняў былі не задаволеныя па ўсёй краіне. Толькі ў Мінску на плошчы Бангалор было дазволена ўвечары правесьці рокканцэрт. Але правядзеньне яго апынулася пад пагрозай зрыву, бо падключыцца да электрычнасьці тут было амаль немагчыма.

І тым ня менш сьвята адбылося. Яго адзначалі ня толькі ў Мінску. У Гродне ў палацы культуры "Юнацтва" прайшло ўрачыстае паседжаньне і сьвяточны канцэрт. У Магілёве былі вывешаныя дзесяткі бел-чырвона-белых сьцягоў на вуліцах гораду. І хоць урачыстае паседжаньне

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018





# Акт незалежнасці Беларусі

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі народа Беларусі,

— усведамляючы адказнасць за будучыню краіны;

— нанамінаючы, што Рэспубліка Беларусь з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў;

— грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

**ЗАЯЎЛЯЕМ:**

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты — свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна Беларусі. Яна абвяшчае незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя дзеянні супраць суверэнітэту Беларусі і нацыянальнай дзяржаўнасці недапушчальныя і павінны карацца як найвялікшае злачынства.

Дзяржаўны суверэнітэт быў замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная, мірная і бяз'ядзерная дзяржава.

Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асобаў і органаў, нават праз рэферэндум.

Сёння незалежнасць Беларусі знаходзіцца пад пагрозай. Рэальнай небяспекай стаў дагавор аб стварэнні так званай саюзнай дзяржавы з Расіяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі беларускіх уладаў, чыя легітымнасць не прызнаецца ў большасці краінаў свету. Мы – за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам іншай дзяржавы. Мы не дазволім ліквідаваць нашу незалежнасць і абмежаваць наш суверэнітэт, знішчыць нашу краіну.

Незалежнасць – гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна. Толькі яна і толькі дзяржаўны суверэнітэт адкрываюць шлях нашай краіне ў еўрапейскую і міжнародную дэмакратычную супольнасць.

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда,

**СВЕДЧЫМ**

Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву з яе адвечнымі сімваламі – бел-чырвона-белым сцягам і гербам «Пагоня»;

**АБВЯШЧАЕМ**

дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

**ПРЫЗНАЁМ**

не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

**ЗАКЛІКАЕМ**

усіх грамадзянаў Беларусі і ўсіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэяў Акта Незалежнасці Беларусі, бараніць незалежнасць Айчыны;

парламенты і ўрады дэмакратычных дзяржаваў, міжнародныя арганізацыі і сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Жыве Беларусь!

*Прынята Усебеларускім З'ездам 29 ліпеня 2000 года ў Мінску.*

---

(Працяг з папярэдняй бач.)

і канцэрт тут былі сарваныя міліцыянтамі, каля 100 чалавек са сьцягамі зрабілі шэсьце па цэнтры гораду. У Наваполацку, Ваўкавыску, Заслаўі прайшлі пікеты ды мітынгі. У Маладэчне, Баранавічах, Бабруйску ды іншых гарадах сьвяточныя мерапрыемствы былі сарваныя міліцыяй.

Усьведамляючы тое, што "незалежнасьць палукашэнкаўску" прамым шляхам вядзе да аб'яднаньня Беларусі з Расіяй і страты суверэнітэту, Усебеларускі зьезд, які адбыўся ў Мінску 29 ліпеня, і на якім прысутнічала 1350 дэлегатаў з усіх раёнаў краіны, прыняў адзіны дакумент — Акт Незалежнасьці Беларусі. У Акце дзяржаўны суверэнітэт абвяшчаецца неад'емнай каштоўнасьцю беларускага народу. Дэлегаты зьезду прызналі ня маючымі законнай сілы любыя пагадненьні і рашэньні, скіраваныя на скасаваньне альбо абмежаваньне суверэнітэту Беларусі і заклікалі ўсіх грамадзянаў Беларусі і ўсіх суайчыньнікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэяў Акта Незалежнасьці Беларусі, бараніць незалежнасьць Айчыны.

Гэта і ёсьць сапраўдная воля народу.

---

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

## Падарожжа асуджаных...

ЛДПБ Гайдукевіча і абрамаўскае «Яблоко», дык хутка зразумелі, што пераканаць грамадзянаў у тым, што гэта і ёсьць апазыцыя, немагчыма. Прыйшлося разыгрываць больш сур'ёзную карту– БСДП «НГ».

Кангрэс дэмакратычных сілаў, што прайшоў на пачатку ліпеня гэтага года, зафіксаваў агульнае рашэньне аб'яднанае апазыцыі – няўдзел у выбарах, калі ўладамі ня будуць выкананыя чатыры ўмовы АБСЭ. З гэтым рашэньнем была згодная і БСДП, пад кіраўніцтвам Мікалая Статкевіча. З гэтага можна зрабіць выснову, што партыя Статкевіча выходзіць са складу аб'яднанае апазыцыі, але ня тое, што ў аб'яднанае апазыцыі раскол. Пра матывы лідэра эксдэкаў можна толькі здагадвацца: альбо яго ўгаварылі ўдзельнічаць у выбарах амбасадар Германіі Вінкельман і кіраўнік кансультацыйна-назіральнае групы АБСЭ Ханс-Георг Вік, якія падтрымліваюць Аляксандра Лукашэнку па пытаньні выбараў; альбо Статкевіч пакваліўся на шчодрае фінансаваньне ўдзелу ў выбарах з боку нямецкіх партнэраў партыі ...

Цяперашнія выбары павінныя абвострыць крызіс, што высьпявае ў партыі Статкевіча. Большая частка сябраў гэтае партыі зьвяўляюцца дэмакратамі па перакананьнях і не прымаюць ідэі ўдзелу ў кішэнных выбарах і перахода з дэмакратычнага лягера ў лягер маргінальных партыяў. А, адпаведна, час знаходжаньня Мікалая Статкевіча на пасадзе старшыні партыі можа рэзка скарацiцца. Тым больш, што ў кіраўніцтве партыі ёсьць фігуры, якія могуць замяніць Статкевіча – экс-старшыня Вярхоўнага Савета Мячыслаў Грыб, намесьнік старшыні партыі Аляксей Кароль, дэпутат Вярхоўнага савета Уладзімір Нісьцюк.

Яшчэ адзін кандыдат у дэпутаты "палаткі" Міхаіл Чыгір. Чым кіраваўся спадар Міхаіл, калі прымаў рашэньне ўдзельнічаць у выбарах, сказаць цяжка. Магчыма, такім чынам, ён хоча нагадаць пра сябе як пра дзейснага палітыка, а магчыма на прыняцьцё рашэньня паўплывала ягоная жонка, якая мае на экс-прэм'ера неабмежаваны ўплыў. Але факт застаецца фактам, - Міхаіл Чыгір вырашыў панізіць свой статус з узроўня прэм'ер-міністра да ўзроўню дэпутата непрызнанага парлямэнта. Такога кшталту зьніжэньне ўзроўня статуснага палітыка мае яскрава выразныя наступствы – калі Чыгір прыме рашэньне ўдзельнічаць у цяперашніх выбарах, дык ён аўтаматычна выпадзе са сьпіса палітыкаў, якія прэтэндуюць на статус адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў у прэзыдэнцкіх выбарах 2001 года.

### Выхад сілай

Агітаваць сёньня грамадзянаў за ўдзел у выбарах, гэта ўсёроўна, што прадаваць білеты МММ – здаецца і квіток на руках, а грошай няма, і не прадбачыцца. Цяперашні псэўдапарлямэнт ня толькі не прызнаны вядучымі краінамі сьвету, але і ўнутры краіны не ў стане вырашыць колькі-небудзь сур'ёзнае пытаньне. Для таго каб зьмяніць жыцьцё да лепшага **неабходна перамагаць на прэзыдэнцкіх выбарах**. І, дзякуй богу, што аб'яднаныя дэмакратычныя сілы гэта добра разумеюць.

Калі сёньня беларускія грамадзяне падтрымаюць дэмакратычныя сілы і праігнаруюць фарс, што зараз разыгрываецца, дык шанцы на тое, што прэзыдэнцкія выбары 2001 года пройдуць справядліва, значна павялічацца. Цяперашні рэжым разумее толькі адзін аргумэнт – сілу. І сёньня мы павінныя прад'явіць уладзе нашую сілу – сілу адзінства. Хаця б у ігнараваньні выбарчага фарса.

---

Нам надзвычай прыемна ведаць, што нашу газэту чытаюць людзі, якія ўмеюць думаць...

## Беларускія думкі Уладзіміра Содаля

### Ужо не хачу

На пачатку свайго прэзідэнцтва А.Лукашэнка яшчэ крыху меў сумлення і, пэўна, не прыроднага, а ідэалагічнага. Хоць на вялікія святы ды звяртаўся да народу на яго роднай мове. Згадаем, для прыкладу, яго прамовы падчас Дня Незалежнасці, Дня Перамогі… Некаторыя верылі, спадзяваліся, што ён вось – вось – пачакайце толькі! – цалкам пяройдзе на родную для Беларусі мову. Сярод тых, хто верыў яму, скажам, была і паэтка Валянціна Аколава. Але мінуў час, а спадзяванні творчай інтэлігенцыі аддаляліся. Лукашэнка ўсё радзей і радзей звяртаўся да роднага слова, а калі звяртаўся, то з грэблівай мінай перакрыўляючы таго ці іншага носьбіта беларускай мовы. І найперш, з апазіцыі. Далей – горш. Пачалі зачыняць беларускія школы. Нашу мову пачалі прынародна зневажаць, і, як гэта нядзіўна, з блаславення самога прэзідэнта. Спадзяванняў на вяртанне прэзідэнта да роднай мовы не заставалася аніякіх. Больш таго нарадзілася якоесь раўнівае пачуццё. Мне, прыкладам, ужо нават спакваля станавілася смешна слухаць выступленні Лукашэнкі па-беларуску. Адкуль гэта? Чаму? Здаецца, павінна было быць радасць, задавальненне, а ў мяне зусім адваротнае пачуццё. Мабыць такое пачуццё спарадзіў сам прэзідэнт. Ягонае крывадушша перасягнула ўсе межы. Толькі гэтым магу патлумачыць такое сваё адчуванне. Вельмі ўжо вялікі грэх сп. Лукашэнкі перад беларускаю моваю, а праз яе і перад усім славянствам. Такога грэху перад ёй не меў мабыць ніхто ў гісторыі… Не гэтак даўно зноў напаткаў Валянціну Аколаву. Спытаўся, ці памятае яна тую нашу размову пра Лукашэнку і што яна думае цяпер пра свае спадзяванні. Паэтка на той мой далёкі ўспамін толькі міла ўсміхнулася. Што да мяне, то я больш не хацеў бы, каб прэзідэнт хоць калі карыстаўся нашаю моваю. А чаму – пра гэта я ўжо тут сказаў. З гэтай нагоды чамусь згадалася Купалава: "У беларусаў нікога няма: хай жа будзе ў іх хоць Янка Купала". Пакуль няма то хай будзе хоць Янка Купала. Але ж гэтак доўга доўжыцца не павінна. Павінна ж калі-небудзь Беларусь атрымаць прэзідэнта, які, кажучы Багушэвічавымі словамі, зразумее, што мова – гэта не толькі сродак сумоўя між людзьмі, але і адзежа душы, ключ ад душы і да душы. А пакуль той час не настаў, будзем, як і дагэтуль жылі, жыць з Янкам Купалам. А гэтыя ніколі не падвядуць, не ашукаюць і не здрадзяць.



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# ЭТНАПСЫХАЛЁГІЯ Й ПАЛІТЫКА: БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ

Шмат хто з аналітыкаў намагаўся раскрыць прычыны ўзьнікненьня сёньняшняга рэжыму ў Беларусі. Але высновы звычайна падганяюцца пад ідэялагічныя перакананьні дасьледніка і трактоўка залежыць ад ягонае першапачатковае пазыцыі. Выводзяць, што прэзыдэнт атасамляецца ў сьвядомасьці насельніцтва з савецкай стабільнасьцяй, гэта адлюстроўвае імкненьне да старога жыцьця, менавіта таму за Лукашэнку і галасуюць. Уся сытуацыя выводзіцца толькі з уплыву зьнешніх сілаў, а народ - быдла, электарат і г.д. Але ж беларусы маюць уласныя асаблівасьці, што, натуральна, ня можа не ўплываць на ходу справы.

Праз бясконцыя войны з заваёўнікамі, праз русіфікацыю й апалячваньне найбольш пасіянарная, энэргічная частка этнасу ці гінула, ці адрывалася ад сваіх каранёў. Тымчасам традыцыі, спрадвечную культуру, сьветагляд прадкаў захоўвала большая колькасна і менш пасіянарная частка насельніцтва -- пераважна вяскоўцы. Менавіта яны - сёньняшнія і ўчорашнія вяскоўцы -- і ўвасабляюць збольшага беларускую нацыю. І ня іхная справа -- быць энэргічнымі барацьбітамі. Іхная спрадвечная функцыя ў грамадзтве -- захаваньне традыцыяў, кансэрватызм. Бяда ў тым, што якраз гэтая функцыя захавальніка традыцыяў была гвалтоўна парушаная прагрэсам, рэвалюцыямі, войнамі, індустрыялізацыяй, калектывізацыяй ды іншымі працэсамі цяперашняе цывілізацыі.

Разам з тым на нацыянальны характар беларуса істотна паўзьдзейнічала тое сьветаадчуваньне, што засталося яшчэ з дахрысьціянскіх часоў, якое найбольш захоўвалася якраз сярод сялянства, бо хрысьціянізацыя (а за ёй і славянізацыя) пачыналася зь вярхоў і з гораду.

Стэрэатып паводзінаў паганца ў традыцыйным грамадзтве можна апісаць так: „Будзь сабою задаволены. Жыві сам і не перашкаджай іншым, выконвай усе законы, і цябе ніхто не зачэпіць". Такі традыцыйны чалавек - звычайна добры чалавек, з гарманічным складам характару. Ён шчыры, бо яго не турбуюць жарсьці й не спакушаюць заганы. Ён добразычлівы, выхаваны ў павазе да традыцыяў, да старэйшых людзей - і ўсё гэта робіць яго прыродным кансэрватарам, які не прыймае радыкальных парушэньняў звыклага ладу.

Але „*звыклы лад*" - гэта ня чэргі ў крамах і кілбаса па 2,20. Панятак Ладу зьяўляецца найбольш глыбокім паміж шэрагу этнічных архетыпаў -- першасных вобразаў, закладзеных у падсьвядомасьць. Вобраз натуральнага, гарманічнага кругабегу жыцьця падсьвядома, але трывала служыць крытэрыем ацэнкі, у тым ліку і ацэнкі палітычнае дзейнасьці. Менавіта з гэтых крытэрыяў і вынікае пагляд беларускага народу на сёньняшняе процістаяньне "рэжым -- апазыцыя".

На сёньня ў краіне аб'ектыўна няма сілы, якая б стаяла на абароне нацыянальных інтарэсаў. І ўлада, і апазыцыя - небеларускія па зьмесьце, незалежна ад таго, на якіх мовах яны гавораць. Гэта азначае, што адсутнічае права выбару, калі пад выглядам „свайго" ў розных абгортках падсоўваецца чужое.

Антынацыянальная палітыка улады абумоўленая ўва многім этнічным складам ейных вышэйшых зьвёнаў. Гэта -- латыпавы, канцаравы, замяталіны. Гэта каля 180 000 адстаўнікоў савецкай арміі, што аселі тут пасьля выводу з Усходняе Эўропы савецкіх войскаў. Гэта каля 20 000 кагэбэшнікаў (ня лічачы сем'яў), вывезеных зь іншых краінаў СССР пасьля яго развалу, -- не ў Разань ці Тмутаракань, але ў Беларусь.

Апазыцыя грунтуецца на "агульнадэмакратычных", „агульначалавечых" тэорыях, антынацыянальных у прынцыпе, хоць многіх апазыцыянэраў яшчэ ў недалёкім мінулым магчыма было аднесьці да нацыяналістаў. Тут не апошнюю ролю займела падтрымка (у тым ліку фінансавая) тых сілаў Захаду, якія не зацікаўленыя ўва ўздыме менавіта нацыянальных рухаў. Давялося неяк назіраць, як адзін „малады палітык" хваліўся, што распаўсюджвае ў чэргах чуткі, што Лукашэнка - Гіршавіч, а не Грыгор'евіч. Відавочна, пры гэтым ён разьлічваў на адпаведны водгук у народзе. Здавалася б, у такім выпадку выйдзі ды скажы адкрыта -- і атрымаеш падтрымку народу. Але ж тады -- грошай не дадуць? Ня дзіва, што народ больш верыць чуткам, чым публічным заявам такіх "дэмакратаў". Урэшце, і сярод апазыцыянэраў нямала людзей чужое крыві, якія нават лічаць патрэбным гэта падкрэсьліць: мауляў, вось, хоць я не беларус, але і я супраць дыктатуры; альбо - „беларус не крывёй, а духам". Дух, вядома, таксама справа важная, але стэрэатып паводзінаў гэтых апазыцыянэраў істотна розьніцца ад нацыянальнага характару беларусаў, таму гэтая апазыцыя і не выклікае даверу ў народзе.

Такім чынам, і ўлада, і апазыцыя праводзяць небеларускія ідэі. Але ж у чым прычына таго, што большасьць народу дагэтуль на баку ўлады? Лягчэй за ўсё пры гэтым спаслацца на ўплыў афіцыйнае прапаганды ці яшчэ раз абазваць народ быдлам. Справа ўсё ж у іншым.

Рэжым і ягоная інфармацыйная абслуга сьвядома насаджае вобраз парадку, моцнае рукі, Гаспадара ў доме - іншымі словамі, таго ж Ладу. Гэтая прапаганда ўплывае наўпрост на падсьвядомы архетып этнасу. Апазыцыя ж якраз за гэта і крытыкуе рэжым. Спасылаючы да казачных прыкладаў „дэмакратыі" і „плюралізму" (нібыта пашыраных аж за часамі ВКЛ), апазыцыя атрымоўвае, адпаведна, мізэрную падтрымку. Асноўнае спадзяваньне апазыцыі - на йстотнае пагаршэньне жыцьця пры цяперашняй уладзе - „чым горш, тым лепш", што таксама ня можа выклікаць падтрымкі ў народзе. Сапраўды, зьмены ў стаўленьні народу да цяперашняга рэжыму могуць адбыцца тады, калі зьнікне асацыяцыя парадку з гэтай уладай. Але ці будзе парадак асацыявацца зь цяперашняй апазыцыяй?

Часам ствараецца нават уражаньне, што прыход да ўлады і не ўваходзіць у пляны апазыцыі, нагэтулькі несур'ёзна яна ставіцца да свае будучыні. Вось прыклад: „*... Беларусь стане прывабнай для шматмільярдавых інвэстыцыяў... Падаткі будуць зьніжаныя і спрошчаныя. Уздым эканомікі прывядзе да росту працоўных мейсцаў. На першым этапе сярэдні заробак дасягне 300-500$. ... Будзе праведзеная пэнсійная рэформа, што на першым этапе павялічыць сярэдні памер пэнсіяў да 100$. ...*" Адкуль гэтыя нягеглыя спробы папулісцкае прапаганды? З праграмы БНФ. Але там нічога ня пішуць аб тым, як трэба працаваць, каб зарабіць хаця б тыя 300-500$. На каго гэта разьлічана? Тыя людзі, хто мог бы на гэта клюнуць, праграмаў БНФ не чытаюць. А ў тых, хто ўмее чытаць, паўстануць слушныя пытаньні.

Па-першае, інвэстыцыі укладаюць туды, дзе ёсьць парадак ды стабільнасьць і няма карупцыі. Дык у разе прыходу да ўлады апазыцыя будзе вымушаная так ці йначай сама наводзіць парадак, і, змагаючыся цяпер за „дэмакратыю і плюралізм", яна падкладае міну пад сваю будучыню.

Па-другое, у выніку прытоку шматмільярдавых інвэстыцыяў рэканструяваная эканоміка апынецца фактычна ў руках інвэстараў, якія і будуць гаспадарамі, а беларусам будуць плаціць тыя самыя 300-500$ заробку. Няхутка ж беларусы змогуць назьбіраць грошай, каб самім рабіць шматмільярдавыя інвэстыцыі! Калі яшчэ ўзяць да ўвагі беларускі прыродны кансэрватызм, нетаропкасьць, дык стане відавочным, што ўва ўмовах адкрытага рынку Беларусь будзе належаць тым, у каго больш грошай: расейскаму й заходняму капіталу. Нават і цяпер сярод бізнэсоўцаў сярэдняга і вышэйшага ўзроўню значную долю складаюць небеларусы. Вось чамусьці не напісана ў праграме БНФ, як будуць бараніцца *нацыянальныя* інтарэсы ў той прыўкраснай будучыні. І не выглядае, каб нехта з апазыцыі сур'ёзна задумваўся над гэтым. Натуральна, што народ такойю апазыцыі не падтрымлівае. Але гэта - не праблема народу, але праблема апазыцыі.

Разьвязаньне гэтае праблемы бачыцца ў наступным: той, хто хоча атрымаць падтрымку народу, найперш павінен яго паважаць і разумець, а не накідваць яму свае местачковыя ўяўленьні. Бо за апошнія дзесяць год бачылі розных апазыцыянэраў, і цяпер - дзе яны? А народ застаўся пры сваім. У гэтым і ёсьць падставы для аптымізму. Мы ведаем, што ўсяму прыйдзе свая пара, як пасьля зімы непазьбежна прыходзіць вясна.

(Просім надрукаваць гэты артыкул у парадку дыскусіі...)

# Ці незалежная Беларусь?

**Уладзімер Мацкевіч**, філёзаф, палітоляг:

**Н**ад даволі простымі словамі „незалежнасьць" і „сувэрэнітэт" у савецкім навамоўі так доўга і многа зьдзекаваліся, што ў сучасным палітычным лексыконе „простага" беларуса гэтыя словы страцілі сэнс і зьмест. Чым, як ня зьдзекам, лічыць сувэрэнітэт БССР, на які спасылаюцца сёньня ідэолягі лукашэнкаўскага рэжыму? Ці ня зьдзек сьцьвярджаць, як яны робяць, што далучэньне да Расеі — гэта гарантыя сапраўднай незалежнасьці?

Калі словы губляюць сваё значэньне, народ страчвае сваю свабоду. Гэтыя словы Канфуцыя, паўтораныя фон Гаекам, вызначаюць сутнасьць першага акту трагедыі кожнага народу, што трапляў у нашым стагодзьдзі пад прыгнёт таталітарызму. Розумам можна дапусьціць, што людзі пад гвалтам і прымусам кажуць і робяць нешта такое, што супярэчыць іх поглядам, веры, маралі і прынцыпам. Можна зразумець (не апраўдваючы) сьвядомы падман, калі чалавек кажа адно, а думае іншае. Але ж розум бясьсільны перад тлумачэньнем таго, што адбываецца ў сьвядомасьці чалавека, які адначасова выступае за незалежнасьць Беларусі і за саюз з Расеяй, а такіх людзей (паводле ўскосных зьвестак сацыялягічных апытаньняў, калі супаставіць розныя дасьледаваньні) — да 25%, калі ня болей. Трэба прызнаць, што сьвядомасьць людзей разбураная савецкім навамоўем і навамысьленьнем. Пытаньне толькі ў тым, як глыбока зайшоў працэс разбурэньня, ці магчыма яшчэ нешта аднавіць. Мова, якой мы карыстаемся, і спосабы мысьленьня — гэта праграмы для сьвядомасьці, накшталт кампутарных праграмаў. Калі зламаны вінчэстэр, яго трэба выкінуць і замяніць. Пры парушэньні працы праграмы можна нешта выправіць антывірусам ці перапісаўшы праграму. Вірус савецкага навамоўя інфікаваў як расейскую, так і беларускую мовы. Таму моўнае пытаньне значна глыбейшае, чым простае распаўсюджваньне беларускай мовы. Мову трэба ратаваць ад вірусу, яе трэба лячыць. Калі таго ж Канфуцыя спыталі, з чаго патрэбна пачынаць рэформы, ён адказаў: „З выпраўленьня іменаў".

Антывіруснай праграмай для мовы можа стаць нацыянальная філязофія і крытыка. Крытыка ў філязофскім сэнсе, а не ў савецкім разуменьні — як абліваньне брудам усялякага іншадумства. Адсутнасьць нацыянальнай філязофіі і крытыкі ў правадыроў нацыянальнага адраджэньня і кіраўнікоў дзяржавы пасьля 1991 году — гэта зьмест другога акту трагедыі незалежнай Беларусі. Краіна амаль адразу ж пацягнулася за новым фюрэрам, што прыйшоў са старым ідэалягічным багажом.

Спрэчкі на пачатку 90-х гадоў пра тое, ці набыла Беларусь сапраўдную незалежнасьць, ці ёсьць абвяшчэньне Дэкларацыі аб сувэрэнітэце сапраўдным сувэрэнітэтам, ня мелі пад сабой іншых падставаў, акрамя страху, разгубленасьці ды невуцтва. Хочаш быць незалежным — будзь ім. Для гэтага патрэбна вельмі мала. Па-першае, абвешчаньне — дэклярацыя. Па-другое, прызнаньне незалежнасьці іншымі — дамова ў Віскулёх, рашэньні ААН, АБСЭ ды іншае. Патрэцяе, самастойныя крокі, дзеяньні і ўчынкі. Пачацьвертае, самастойная адказнасьць за хібы і памылкі, якіх шмат на першых самастойных кроках.

Першыя тры пункты выконваліся ў 1992-93 гадах. Былі дасягненьні, былі і памылкі. Не было толькі сьмеласьці самім адказваць за зробленыя памылкі. Памылкі рабілі „яны", а ня мы, а „мы" проста недастаткова незалежныя, у нас мала сувэрэнітэту. Кебіч уводзіў беларускія грошы, а калі пачалася гіпэрінфляцыя, пабег прасіць паратунку ў Расеі: давайце аб'ядноўваць грашовыя сыстэмы.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018


Можна прыводзіць шмат прыкладаў памылак, шмат узораў агіднага пазьбяганьня адказнасьці — сэнс ня ў гэтым. З памылак трэба рабіць высновы.

1. Мы абвесьцілі незалежнасьць — значыць, мы незалежныя. Хто ня згодны, той будзе мець справу з усёй магутнасьцю нашай дзяржавы і тых міжнародных арганізацыяў, якія прызналі нашу незалежнасьць і гарантуюць яе праз дамовы з сувэрэннымі ўладамі Рэспублікі Беларусь. На тое дзяржаве і належацца ўзброеныя сілы, каб са зброяй у руках абараняць свой сувэрэнітэт, усё тое, на што распаўсюджваецца сувэрэнітэт Рэспублікі. Нават Расея, якая так ня хоча лічыць нас незалежнымі, вымушаная лічыцца з гэтым *de jure*. А нам пакуль большага і не патрэбна.

2. Расея скарысталася нашымі памылкамі і знайшла ў кіраўніцтве краіны здраднікаў, якія гатовыя пайсьці на страту сувэрэнітэту і адмову ад незалежнасьці. Так, але ж Расея і не зьбіралася быць гарантам нашай незалежнасьці. Скарысталася нашымі памылкамі яна, а нам гэтыя памылкі выпраўляць. Калі ў кіраўніцтве дзяржавы здрада, народ мае права на непадпарадкаваньне. Бо па Канстытуцыі народ — вярхоўны сувэрэн у краіне, вышэйшы за ўрад. Хто адмаўляецца ад непадпарадкаваньня здрадліваму ўраду, той адмаўляецца ад адказнасьці. Адмова ад адказнасьці ёсьць стратай незалежнасьці яшчэ да здрады ўраду.

3. Як далёка мы гатовыя ісьці ў змаганьні за незалежнасьць нашай краіны, якая пакуль ня страчаная? Колькі каштуе нашая незалежнасьць? Насамрэч пытаньне толькі ў гэтым — кошт нашай незалежнасьці. Усе астатнія разважаньні пра тое, мала ці многа ў нас сувэрэнітэту, ці дастаткова мы незалежныя — гэта індульгенцыі для слабых характараў, разбуранай сьвядомасьці, недахопу розуму, з аднаго боку, і ідэалягічная падтрымка рэжыму з другога.

Што кажуць тыя, хто прадае Беларусь? „Мы незалежныя *de jure*, але ж гэтага мала. *De facto* мы залежым ад паставак нафты і газу“. Гэта хлусьня, але ж яна бездказна дзейнічае, і мы сваімі разважаньнямі дапамагаем гэтаму. „Мы незалежныя *de jure*, але ж нам бракуе розуму, каб самім уладкаваць сваё жыцьцё: увесь інтэлект у Маскве, адтуль нам дасылаюць падручнікі для сярэдняй школы, ня кажучы ўжо пра вышэйшую“. І мы дапамагаем гэтай хлусьні, бо цікавімся толькі ўлёткамі, слёганамі, а ня працай беларускіх інтэлектуалаў ды навукоўцаў. Можна працягваць гэты шэраг далей, толькі ён мае канец. Канец яго там, дзе паўстае пытаньне пра ўзброенае непадпарадкаваньне.

Да гэтага пытаньня зноў жа трэба ставіцца пафілязофску. Першае: ці надышоў час ставіць гэтае пытаньне або можна яшчэ пачакаць? Другое: ці ёсьць у дзяржавы войска, гатовае абараняць незалежнасьць, або ў краіне прысутнічае толькі акупацыйнае здрадніцкае войска зь беларускімі рэкрутамі-шарагоўцамі ды сяржантамі? Трэцяе: ці неабходная сапраўдная грамадзянская вайна або дастаткова негвалтоўнага супраціву, бо ў шарагоўцаў беларускай арміі не падымецца рука застрэліць шмат людзей? Чацьвертае: хто пачне? Пятае: што пачынаць?

На пятую частку пытаньня я магу даць адказ. Трэба даць сучаснае тлумачэньне паняцьцю „незалежнасьць“ або беларусіфікаваць гэтае паняцьце (узгадайце Канфуцыя). Сэнс гэтага паняцьця пакрывае вельмі шырокае сэмантычнае поле. Вызначым неабходныя і дастатковыя межы ў гэтым полі: дастатковым сэнсам паняцьця „незалежнасьць“ зьяўляецца тое, што кошт яе большы за жыцьцё; калі не, дык размова ідзе пра нешта іншае. Неабходным сэнсам зьяўляецца жыцьцё беларуса. Як нельга здабыць незалежнасьць Курдыстану коштам жыцьця беларуса, так і не здабыць незалежнасьці Беларусі коштам жыцьця ірляндца з ІРА.

Зыходзячы з гэтага, можна адказваць на ўсе астатнія пытаньні. Пакуль выконваецца дастатковая частка сэнсавага паняцьця „незалежнасьць“, яна, увогуле, існуе ў сьвеце. Пакуль выконваецца неабходная частка, гарантуецца незалежнасьць Беларусі. Не загіне Беларусь, пакуль мы жывыя.

Не загіне Беларусь, пакуль мы жывыя. Але ж што гэта значыць? Можна тлумачыць гэта так, што нават тады, калі ворагі пазбавяць краіну незалежнасьці, незалежнасьць будзе жыць у нашых сэрцах. Можна тлумачыць і так, што, каб пазбавіць Беларусь незалежнасьці, трэба фізычна зьнішчыць нас. Не захаваць незалежнасьці Беларусі, калі адарваць гэтыя тлумачэньні адно ад аднога. Яны складаюць сапраўдны сэнс незалежнасьці толькі разам.

Зьвернемся да першага пытаньня: ці надышоў час ставіць пытаньне пра незалежнасьць у поўным сэнсе гэтага слова? Калі мы спозьнімся з адказам на гэтае пытаньне, адбудзецца трэці акт сучаснай беларускай трагедыі. А сэнсам трэцяга акту будзе страта разуменьня таго, што мы ўсе павінны жыць, каб жыла Беларусь, але кожны з нас павінен быць гатовы ахвяраваць сабою, каб яна жыла. А як ня будзе гэтай ахвярнасьці, усе разважаньні пра незалежнасьць будуць весьціся на навамоўі, і тады ворагі ды здраднікі могуць з намі не лічыцца.

(апытаньне ARCHE)

---

**Алег Трусаў,**
**старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.**

# Захаванне незалежнасці Беларусі непарыўна звязанае з развіццём і пашырэннем беларускай мовы.

**(выступ на Усебеларускім з’ездзе “За незалежнасць”)**

Росквіт нашай Бацькаўшчыны заўжды непарыўна быў звязаны з росквітам ды пашырэннем ва ўжытку беларускай мовы, якая з даўніх часоў выконвала функцыю не толькі дзяржаўнай, але і мовы міжнацыянальных стасункаў, асабліва за часамі ВКЛ.

У ВКЛ старабеларуская мова была не толькі дзяржаўнай з сутнасці, але і мовай войска, судоў, справаводства, арыстакратычнага асяродку і, разам з латынню, мовай міждзяржаўных стасункаў, якую ў дыпламатычным ліставанні выкарыстоўвалі і суседнія краіны.

З XII па XV ст.ст. гэта была дзяржаўная мова і яшчэ адной беларускай краіны – Вялікага княства Смаленскага, якое ўвайшло ў склад ВКЛ у XV ст. і адразу стала адным са значных цэнтраў беларускага летапісання. Найвыбітнейшым шэдэўрам смаленскіх літапісцаў XV ст. стаў знакаміты Радзівілаўскі летапіс, аздоблены больш чым 600-амі цудоўнымі малюнкамі.

У 1588 г. дзякуючы намаганням Ільва Сапегі беларуская мова афіцыйна была абвешчана дзяржаўнай, што было замацавана Статутам ВКЛ, адной з першых у Еўропе Канстытуцый, надзвычай дэмакратычнай для сярэднявечча. Але ж хвалі паланізацыі і русіфікацыі, што на доўгі час пазбавілі беларусаў незалежнасці, разам з тым вельмі нашкодзілі і беларускай мове, бо адзіным месцам яе існавання цягам некалькіх апошніх стагоддзяў была толькі наша, беларуская вёска. Галоўная мэта любога акупанта – знішчэнне (фізічнае ці маральнае) альбо поўная асіміляцыя мясцовай інтэлігенцыі, носьбітаў і захавальнікаў літаратурнай мовы свайго народа. І ў першую чаргу знішчаецца нацыянальная сістэма адукацыі, асабліва вышэйшая.

Захапіўшы Беларусь напрыканцы XVIII – пачатку XIX стагоддзяў улады Расейскай імперыі спярша спрыялі поўнай паланізацыі народнай асветы на Беларусі, а калі гэта адбылося, скасавалі ўсе навучальныя ўстановы забранага краю. І першымі ў той чарзе былі Полацкая акадэмія ды Віленскі ўніверсітэт. А пасля задушэння паўстання Каліноўскага на Беларусь абрынулася хваля татальнай русіфікацыі. Аднак, нягледзячы на палітычныя рэпрэсіі і моцны рэлігійны ўціск, паводле перапісу 1897 году са 153 тысячаў мясцовай шляхты 43,3% (а гэта больш за 66 тысячаў!) назвалі ўсё ж сваёй роднай мовай беларускую.

Тыя “рускамоўныя дэмакраты”, што прысутнічаюць сёння ў гэтай зале, мусяць памятаць крылатае выслоўе рускіх акупантаў “Таго, што не зрабіў рускі штых, паспяхова зробіць руская школа і рускі настаўнік”. І калі вы, неўзіраючы на паходжанне ды палітычныя погляды, лічыце сябе патрыётамі Беларусі, вы проста абавязаны ў гэты нялёгкі для нашае Бацькаўшчыны час бараніць беларускую мову, паўсюдна ёю карыстацца, асабліва ў СМІ, і адстойваць менавіта беларускамоўную адукацыю, як для сваіх дзетак, гэтак і для ўсіх грамадзянаў нашай краіны.

Між іншым, у 16 стагоддзі ў Беларусі існавалі школы еўрапейскага ўзроўню адукацыі. У 1579 годзе ў Вільні быў адкрыты ўніверсітэт, які зваўся Акадэміяй і дзе атрымоўвалі вышэйшую адукацыю юнакі з Беларусі. Спачатку ўніверсітэт меў 3 факультэты. Студэнты ўсіх факультэтаў вывучалі беларускую мову. Ва ўніверсітэт прымаліся выхаванцы сярэдніх школаў Беларусі, дастаткова падрыхтаваныя да ўспрыняцця дысцыплінаў, што вывучаліся ўва ўсёй Еўропе. У 16 – 18 стагоддзях таксама існавала і шырокая сетка сярэдніх школ, сярод якіх асабліва вылучаліся іезуіцкія калегіі і піярскія вучэльні. У канцы 18 стагоддзя ўва ўніверсітэце былі адчыненыя фізічны і медычны факультэты. Свой унёсак у развіццё вышэйшай адукацыі Беларусі зрабіла Полацкая іезуіцкая акадэмія, адчыненая ў 1812 годзе, а таксама Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Аднак царскі рэжым зачыніў усе гэтыя вышэйшыя навучальныя ўстановы з-за рэвалюцыйных поглядаў студэнтаў і часткі прафесуры.

Тым не менш традыцыі нацыянальнай вышэйшае адукацыі захаваліся. У 1918 годзе ў Менску быў адкрыты Педагагічны інстытут, а ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі прыняў рашэнне аб адкрыцці Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта. І нарэшце ў 1921 годзе ў БССР пачаў сваю дзейнасць Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, дзе распачалася падрыхтоўка нацыянальных навуковых ды педагагічных кадраў. Для жыхароў Заходняй Беларусі значную ролю адыграў таксама Пражскі ўніверсітэт, дзе мела магчымасць навучацца таленавітая беларуская моладзь.

Канец 20-х – пачатак 30-х гадоў нашага стагоддзя былі адметныя тым, што паспяхова пачаўся пераход да выкладання ўсіх дысцыплінаў (якія вывучаліся ў ВНУ) на беларускую мову. Разам з гэтым выявілася надзвычайнавя актыўнасць педагогаў і навукоўцаў у выданні беларускамоўных падручнікаў. Аднак сталінскія рэпрэсіі канца 30-х гадоў цалкам разбурылі беларускую адметнасць вышэйшай школы. Пераважная бальшыня нацыянальна сведамых выкладчыкаў была рэпрэсавана. Працэс вынішчэння нацыянальнай вышэйшай школы давершыла другая сусветная вайна. Дастаткова прыгадаць, што ў 50-70 г.г. XX стагоддзя працэнт беларусаў сярод выкладчыкаў нашых ВНУ, асабліва сярод дацэнтаў ды прафесуры, быў менш за 50%. Таму беларуская мова фактычна была забароненая для ўжытку ў ВНУ, а ейныя носьбіты пераследаваліся. Варта згадаць спробу беларускіх студэнтаў філфака БДУ дамагчыся выкладання па-беларуску некаторых дысцыплінаў і што з гэтым атрымалася. Больш чым на 50 гадоў быў гвалтоўна спынены амаль увесь працэс выкладання ў ВНУ па-беларуску, не выдаваліся і беларускія падручнікі. Працэс вяртання менавіта да нацыянальнай сістэмы вышэйшай адукацыі ўзнікўся толькі на пачатку 90-х гадоў (пасля абвяшчэння беларускай мовы дзяржаўнай). Нягледзячы на адсутнасць дзяржаўнай праграмы, ён пашырыўся і меў свае поспехі. Але ўсё зноў было скасавана , гэтым разам пасля рэферэндуму 1995 году і змянення дзяржаўнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь, якая сёння накіраваная на вынішчэнне ўсяго беларускага.

Аднак, насуперак актыўным намаганням сённяшнае ўлады ў русіфікацыі краіны, вынікі перапісу жыхарства 1999 году яскрава засведчылі, што беларусы нават у такіх надзвычай складаных умовах здолелі захаваць сваю нацыянальную адметнасць: каля 81 % грамадзянаў назвалі сябе беларусамі з паходжання, а прыкладна 37% (амаль 4 млн. нашых суачыннікаў!) у якасці мовы штодзённых стасункаў назвалі беларускую. Тут варта зазначыць, што каля трэці школьнікаў навучаецца зараз менавіта ў беларускамоўных сярэдніх школах і класах. Але ж сёння яны не маюць магчымасці працягваць сваё цалкам беларускамоўнае навучанне ў ВНУ.

У артыкуле 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пазначана: “Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносінаў. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання”.

На жаль, гэты артыкул нашага Галоўнага закону сёння не дзейнічае, бо бацькі , якія жадаюць

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



навучаць сваіх дзетак па-беларуску, паўсюдна сутыкаюцца з перашкодамі, ужо мінула 10 гадоў ад дня прыняцця дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, а Беларусь дасюль не мае ніводнай вышэйшай навучальнаў установы, дзе б усе студэнты навучаліся на роднай, а разам з тым і дзяржаўнай беларускай мове і дзе б вытрымліваўся адпаведны моўны рэжым. Тыя нешматлікія фармальныя беларускамоўныя плыні, што засталіся на некаторых гуманітарных факультэтах некалькіх ВНУ у разлік браць нельга, бо поўнае выкладанне па-беларуску ўсіх дысцыплінаў (асабліва замежных моў) там адсутнічае. У сувязі з гэтым ТБМ імя Ф.Скарыны цягам апошніх трох гадоў патрабуе ад кіраўніцтва краіны адкрыцця ў Менску новага Беларускага Нацыянальнага ўніверсітэту (далей БНУ), у якім усе без выключэння дысцыпліны выкладаліся б па-беларуску, а таксама на дзяржаўнай беларускай мове дзейнічала б уся сістэма справаводства (уключна з бухгалтэрыяй) з філіямі ў тых вялікіх беларускіх гарадох, дзе жыве болей за 100 тыс. жыхароў і дзе адсутнічаюць іншыя ВНУ. У першую чаргу гэта Ліда (дзе за БНУ было сабрана больш за 8 тысяч подпісаў), а таксама Бабруйск, Ворша, Пінск.

На сёння ТБМ мае больш за 30 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі ды іншых краін з патрабаваннем адкрыць на Беларусі вышэйзгаданую навучальную ўстанову, дзе ўсе дысцыпліны (у тым ліку і замежныя мовы) выкладаліся б па-беларуску. Наша дзяржава мае дастатковую колькасць дактароў і кандыдатаў навук, прафесараў і дацэнтаў, каб цалкам укамплектаваць усе факультэты БНУ высокапрафесійнымі, беларускамоўнымі кадрамі.

Але ж, на жаль, звароты ТБМ да кіраўніцтва беларускай дзяржавы застаюцца пакуль без адказу. Таму напрыканцы мінулага году Таварыствам была зарганізаваная ініцыятыўная група па стварэнні БНУ. У адпаведнасці з рашэннем лістападаўскай Рады ТБМ і з асабістых пажаданняў у склад ініцыятыўнае групы зараз уваходзяць каля 70 асобаў. Сярод іх акадэмікі, член-карэспандэнты, 15 дактароў навук, шмат прафесараў, дацэнтаў, вядомыя пісьменнікі, журналісты, дыпламаты. Кіруе групай акадэмік Радзім Гарэцкі.

Праект Канцэпцыі стварэння БНУ быў апублікаваны ў дзяржаўным ды незалежным друку. Ідэю адкрыцця БНУ ўжо падтрымалі Саюзы палякаў і літоўцаў Беларусі, розныя грамадскія ды палітычныя арганізацыі, сярод якіх Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Таварыства беларускай школы. і

ТБМ неаднаразова прапаноўвала ўладам публічна абмеркаваць гэтае пытанне ў часе так званага Дыялогу, але афіцыйныя асобы пакуль устрымліваюцца ад гэтага кроку, хоць менавіта гэтая ідэя магла б па-сапраўднаму згуртаваць беларускае грамадства. т

Таму я з гэтай высокай трыбуны ад імя ўсіх сяброў Таварыства беларускай мовы прапаную дэлегатам Усебеларускага з'езду шляхам адкрытага галасавання падтрымаць ідэю адкрыцця ў нашай краіне ў 2001 годзе Беларускага Нацыянальнага ўніверсітэту з філіяламі ў буйных гарадох і ўнесці адпаведны запіс у рэзалюцыю з'езду.

**Жыве вольная Беларусь!**

29 ліпеня 2000 г.Менск.

# Радагосьце

Добрага дня маім прыязьнікам! Ведаеце, гэтак і карціць сказаць: "Добрай раніцы, жлобская нацыя!", услед за нашым знакамітым бардам з Гародні. Хоць я, дарэчы, глыбока ў душы, як гэта вымаўляюцца героі сэрыялаў, ня згодная зь ім. І, падаецца, маю што аспрэчыць. Але тое пачуцьцё гонару, якое дало б сілы аспрэчыць, не згадзіцца, дальбог, настолькі глыбока сядзіць у нетры мяне, што набыць матэрыялізаваную форму, слоўную абалонку яму надзвычай цяжка. Штодзённа ж, на паверхні нашага бытаваньня тут і зараз, -- недарэчнасьць суцэльная. Узапраўду ж, адно нягеглікі могуць з сабою гэтак абыходзіцца -- жыць як папала, калі маецца мажлівасьць годнае, прыстойнае жыткі. Прашу ня блытаць маё азначэньне годнасьці з прыгоднасьцю. Бо гэтае "пры" ўсё-ткі ў нашай мове нейкае несамастойнае, дадатковае. Мы ўвогуле звучаныя пры-нароўлівацца да кагосьці, пры-ладжвацца заместа таго, каб жыць сабе напоўніцу, карыстаючы даброты зямлі. Дык не ж! Нам трэба вымудрыць зь сябе рускіх - ды вылузвацца са скуры, каб нехта ў гэта паверыў. Але ўсім няма аніякае справы, кім ёсьць мы тут насамрэч і кім пачуваемся-называемся. Нават у расейцаў згасае смак мець нас за батракоў у сваёй гаспадарцы: якая ж карысьць ад служкі, што не разумее свайго мейсца, пнецца самога сябе пераскокнуць. Гэткую вось незайздросную ролю мы сабе абралі. Хацелі прыстасавацца - і застацца панамі свайго лёсу. Ото ж ня выходзіць. Замінае зноў гэтае няўклюднае "пры". Колісь нашыя дзяды ўсьведамлялі й акрэсьлівалі сваё залежнае становішча: казалі "жывем за палякам", "за расейцам", за "немцам", "за камуністам", нібыта вынаходзячы ў гэтым "за" якую-ніякую заслону...

Спакваля кола гісторыі выкручвала ўсё гэтак, што нашыя "заступнікі"-гаспадары пакідалі нас на раздарожжы.

Самі ж таго ня ведалі, што даюць нам шанец Быць - ня пры, ня за, але Вольна. Праўда, сплацілі мы за гэтую кінутасьць незьлічонымі пакутамі й ахвярамі. Але ж не аценілі, ня сьцямілі, што мы тут ёсьць спрадвечнымі, бо тут карэніцца й галінуецца ў космас нашае радаводнае дрэва. Не, саслалі ў выгнаньне Сапраўды Свой урад БНР - і зноў патупалі па натаптанай дарозе - за бальшавікамі, за немцамі, за... А вось тут варта спыніцца. Доўгая вясёлая жытка-галюцынацыя ў агульным доме - Савецкім Саюзе - скасавала тыя дапаўняльныя ў адносінах да нас "пры" й "за". Цяпер ідэёлягам стала выгодна даводзіць, што савецкі народ ёсьць сплачоным ядінствам". Мне дык зараз відно, што сплачанае, а не сплачонае, ядзімства, але не адзінства. Ды тое толькі зараз убачылася, - калі азірнуліся. Тады ж амаль насалодна сплачвалі гэтай нерушнай еднасьці ўсё да граша. І адбывалася й сапраўды ядзімства-паяданьне аднае культуры іншаю - рускаю. Па сутнасьці, вынішчэньне апошняга, што яшчэ трывала ў душы нашае за часамі ўсіх "за" ды "пры". Нездарма й надарыўся Чарнобыль - балючы адбітак нашага павольнага духовага паміраньня на пляне фізычным, матэрыяльным. Цяпер сьмерці й выродствы сталі відочнымі. Але мы ня бачым, мы не ратуемся, кінуўшы ў зоне ды ў шпіталях паў-краіны на занядужаньне й зацьменьне.

Псыхолягі сьцьвярджаюць, што ў чалавека слабнуць зрок і слых, калі ён ня хоча бачыць альбо чуць праўду, усяляк хаваецца ад яе, не прымае, не пускае да розуму й сэрца. Якраз гэтае з намі й дзеецца - ніякія жорсткія ўрокі ня могуць змусіць расплюшчыць вочы й натапырыць вушы ў спадзеве зразумець сутнасьць. Куды там! Плешчам языком на жудаснай трасянцы -- аж брыдка! -- , але ж ганарова абвяшчаемся адны рускімі, іншыя -- тожабеларусамі. А гэтая тожасьць, пэўне што, азначае тоеснасьць, падабенства. Заўважма: рускія мы неабвержна, бяз тожасьці, а беларусы зноў-такі нейкія прыстаўныя, дадатковыя, адно падобныя да праўдзівых, як грыбы-падманкі ў нашых лясох. Прыстасаванцам даводзіцца абвяшчаць сябе пакрыўджана: маўляў, я тожа, я гэтаксама беларус. Як нехта, але не як я сам.

Зрэшты, самая зьява нацыянальнае самавызначанасьці ці самаадасабленьня ад нацыі ёсьць анамаліяй, разумовым зрушэньнем. Бо немагчыма сабе ўявіць, каб которы немец альбо француз даўмеўся хадзіць па сваёй хаце ды сьведчыць, што ён мае прыналежнасьць да гэткага вось ці гэткага народу. У нас жа тое звычная падзея: штодня пачуеш, як цётачка, ганарліва напыжыўшы вусны, якія век ня лашчылі рускага слова, разважае пра жізню нашую рускую й харакцяр. І штодня пашкадуеш глухога, сьляпога земляка, які разгублена вымагаецца на зьнянацна сустрэтае роднае слова апраўдацца: "Я тожа кагда-та гаваріл так". Затым хуценька схавае сваё вясковае паходжаньне: а раптам палічаць за някультурнага... Ці наадварот: выставіць напаказ сярмяжнасьць роду - я зь вёскі, а таму беларус.

Вось дзе выяўляецца яна, жлобская нацыя. Намагаемся выглядаць культурнымі ўсё за чыйсьці конт - то да расейцаў прыхінуся й зраблюся культурным, то сваю тожабеларускасьць выстаўлю як лёзунг далучанасьці да нейкае культурнае касты. А ўрэшце й вёска можа зрэдзь часу паслугаваць аргумэнтам на карысьць нязблудласьці ў гэтым сьвеце. Бачыце, мазаічны мы народ, беларусы. Лепім-складаем сябе з розных колераў, а выходзіць ні тое ні сёе. Здавалася б, што прасьцей можа быць: маем абярожныя бел-чырвона-белыя знакі да Бога - трымацца б іх ды смакаваць мэлёдыку прадаўняе мовы. Не стае ж нашае мужнасьці на гэта. Быццам хто за крысо хапае й ня пускае згадаць сябе. Зручней нам вось гэтак - у палоне, што пераназываецца з СССР у СНД, а пасьля йзноў у нейкі саюз, - абы не самім сабе. Абы знайсьці чым апраўдаць сваю бездаказнасьць і недастатковасьць, што наскрозь праядаюць душы. Чалавеку нядобра, некамфортна быць падманным, як, зрэшты, і ўсяму жывому. Менавіта па гэтае прычыне ў сьвеце столькі падробкаў - выдаваньня штучнасьці за існасьць. Мы звыкла з асуджэньнем успрымаем, што падман ськіваваны супраць нас, ахвяраў, якія, ведама ж, выпадкова патрапілі на яго. А насамрэч заўжды ёсьць прычына ўсярэдзіне самога падману як зьявішча псыхалягічнага. Мне часам падаецца, што ніхто асабліва й ня зьнявольваў бы нас, калі б не сыходзіла ад нас энэргія нявольніцтва. А ўжо гэтая энэргія мае мноства праяваў: і бязмоўе, і неахайства, і безгаспадарчасьць, і здраднасьць. Гляньма ж , у якім асяродзьдзі мы жывем - ніхто ж іншы, апроч нас, ня прыходзіў сюды руйнавальнікам. А патлумачэньне нашае жлобскасьці гаркотнае й балючае: пад каго й як ні падладуйся, у якія саюзы й супольнасьці ні ўлазь, - альбо пан альбо прапаў. Вунь увесь сьвет цяпер памкнёны да супольніцтва, сьціраюцца межы геаграфічныя й моўныя, грашовыя й псыхалягічныя - усчаўся рух да ўсечалавечага зьяднаньня. І калі празь вякі альбо эры наканавана зьнікнуць, сысьці з плянэты разнамоўю, то - ого! - яшчэ як дзеля гэтае ўсясьветнае злучнасьці трэба нам усім парупіцца на сваёй ніве, узгадоўваючы СВАЁ дрэва. Рана шмат хто з браткоў-беларусаў, перапрануўшыся ў псэўдарускія строі ды засьпяваўшы "Кацюшу", захацелі стаць грамадзянамі сьвету. Але ж сьвет - далёка не адна Расея, а веданьне й далучэньне да расейскае культуры не абмяжоўваецца наборам прасьцейшых рускіх словаў у лексіконе, якія яшчэ й вымаўляць трэба адпаведна. Расея - вялікі культурны мацярык, і нораў, сьветагляд, ментальнасьць пераняць немагчыма. Хіба толькі зьмірыцца з уласнаю недаразьвітасьцю, але ж затое падладжанаю пад расейскую... Тады зноў нямінучыя ўцёкі - мы ж гэтак пазьбягаем сябе саміх тут, на радзіме. Гэтак высьцілаецца, што панам пачувацца вольна толькі дома, гаспадарачы ў сваім жыцьці. А ў падпанкі суседзі пусьцяць, калі разам гультаяваць - працаваць жа на чужога дзядзьку давядзецца па-халопску. І гэта мы на сваёй скуры пасьпелі ўжо зьведаць. Дзеля ж стваральнасьці й зладнасьці трэба непадманная годнасьць. І нам яе непазьбежна прыйдзецца цяжка здабываць. Гэта наш крыж, беларускі.

## Беларусы на затанулай падлодцы «Курск»

Маракі-беларусы знаходзяцца на борце затанулай тыдзень таму расейскай падводнай лодкі «Курск». Гэта капітан другога ранга Сяргей Дудко і капітан трэцяга ранга Аляксандар Садкоў. Капітан другога ранга Дудко займае пасаду намесьніка каманьдзіра «Курска». Яго маці жыве ў Пінску, а брат вучыцца ў Санкт-Пецярбурзе. Зараз маці Дудко ляжыць у бальніцы – пасьля паведамленьня аб аварыі на падлодцы ў яе здарыўся інфаркт. Жонка Аксана разам зь іншымі роднымі патанулых маракоў усё яшчэ чакае яго ў Вядзяева, што пад Мурманскам. Пра Аляксандра Садкова вядома, што нарадзіўся ён у Амурскай вобласьці, аднак у пашпарце таксама запісаны як беларус. Цалкам, па інфармацыі консульскай службы Беларусі ў Мурманску, больш за паўтары тысячы беларусаў служаць зараз у Паўночным флоце Расеі.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# «Наша прыгожае пісьменства на фоне Еўропы — тое ж самае, што Нёман на фоне Рэйна...»

"Звязда"

***Завяршылася буйная міжнародная акцыя «Літаратурны экспрэс Еўропа-2000», у якой бралі ўдзел 100 літаратараў з 43 краін Еўропы. У гэтым своеасаблівым падарожжы па маршруту легендарнага экспрэса ўдзельнічалі і беларускія літаратары.***

***На пытанні журналісткі Тацццяны Падаляк адказвае ўдзельнік Літэкспрэса вядомы паэт Леанід Дранько-Майсюк.***

**— Ці цяжка было вяртацца дамоў?.. Шыкоўная вандроўка, амаль два месяцы жыцця паводле «цывілізаваных» стандартаў...**

— Усё так — і вандроўка шыкоўная, і амаль два месяцы неблагога жыцця. Аднак жа, здаралася, узнікала думка, што знаходжуся я ў ігральным доме, дзе з упартасцю кепскага гульца дзень за днём прамантачваю свой час. Калі па праўдзе, то ехаць я не хацеў, але дзве цудоўныя жанчыны — Жанна Дапкюнас і Вольга Іпатава ласкава ўгаварылі мяне стаць пасажырам гэтага неспадзяванага літаратурнага цягніка. Дзякуй ім за элегантную настойлівасць і добрую арганізацыю нязвыклага падарожжа...

Вы спыталі, ці цяжка было вяртацца, прыхаваўшы ў сваім пытанні недвухсэнсоўны журналісцкі жарцік. Ну як жа ж — за доўгія сорак чатыры дні, скажам так, нянашага жыцця можна й звыкнуць да панскіх даброт! Паспрабую і я пажартаваць: панскае да нянанскага моцна не прыстае... Калі ж гаварыць сур'ёзна, то дамоў былі два вяртанні. Першае — 9 ліпеня; другое, ужо канчатковае, 18 ліпеня. 9 ліпеня я сказаў сабе: «Вось ты прыехаў і ў Мінск...» А 18-га: «Вось нарэшце ты й вярнуўся...» Як у першы раз, так і ў другі — ніякай лёгкасці і ніякай там асаблівай цяжкасці не адчуў. Мусіць таму, што вяртанне дамоў — гэта перш за ўсё праблема часу, а не праблема душы. А час, як вядома, нам непадуладны.

**— Каму належыць ідэя гэтай незвычайнай акцыі?**

— Задума на нейкі час аб'яднаць раз'яднаных, разнамоўных пісьменнікаў належыць нямецкаму літаратару Томасу Вольфарту і ягоным нястомным калегам. Бясспрэчна, гэта цудоўная задума. Асноўную мэту яе тлумачаць па-рознаму — сустрэча новага стагоддзя і, вядома, тысячагоддзя; магчымасць рэальна адчуць, праехаўшы ад Партугаліі да Расіі, супольнасць еўрапейскай тэрыторыі; спроба пабудовы новай культурнай прасторы; асэнсаванне працэсаў глабалізацыі; успрыманне нашага кантынента ў святле дэкларатыўнай паэзіі. А менавіта: Еўропа — гэта ружа, якая належыць Богу; усе мы павінны не проста жыць у Еўропе, а цешыцца з яе; а каб так было — над хараством не павінна ўзвышацца палітыка... Можна сказаць яшчэ, што акцыя «Літаратурны экспрэс Еўропа-2000» наблізіла кожнага свайго ўдзельніка да жаданага разумення: вобраз еўрапейскага дому не адцягнены, а рэчаісны.

**— Акцыя адбылася, можна сказаць, у апошнія дні другога тысячагоддзя. Час, у які завяршаюцца тысячагоддзі, заўсёды містычна пазначаны...**

— Пэўна што так. Напрыклад, у самым канцы першага тысячагоддзя панавалі эсхаталагічныя ўяўленні. Людзі чакалі канца свету, імкнуліся ў Палесціну — думалі, што менавіта там аб'яднаецца нябесны Ерусалім з Ерусалімам зямным. Мы, пражываючы апошнія месяцы другога тысячагоддзя, не можам не адчуваць у сабе асаблівую таямніцу гэтых месяцаў, тыдняў, дзён. Праўда, наш прагматызм ратуе нас ад суцэльных эсхаталагічных настрояў, таму ў Палесціну мы пакуль што не імкнемся. Мусіць, вялікай патрэбы не маем у тым, каб Ерусалім нябесны аб'яднаць з Ерусалімам зямным. Аднак жа падчас падарожжа кожнае месца, у якім спыняўся экспрэс, на трывалае імгненне ператваралася ў Ерусалім артыстычны. Менавіта артыстычны. І гэта зразумела чаму. Пры дапамозе артыстызму асаблівую таямніцу апошніх дзён тысячагоддзя лёгка было ператвараць у зразумелае свята.

**— Ад Беларусі, акрамя вас, у Літэкспрэсе ўзялі ўдзел В. Іпатава і А. Федарэнка. Якім чынам былі вылучаны менавіта вашы кандыдатуры? Ці была захавана галоснасць — або сваю вядомую ролю адыграла «закуліссе»?**

— Калі называць «закуліссем» усё тое ж прывабнае жаданне спадарыні Дапкюнас і спадарыні Іпатавай зрабіць так, каб фігурантам гэтай шматдзённай імпрэзы стаў і я, — то тады выходзіць, што «закуліссе» адыграла сваю вядомую ролю. Але толькі ў дачыненні да мяне аднаго. Зрэшты, у свой час усе нашы кандыдатуры былі абвешчаны на пасяджэнні Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, і ніхто з сяброў Рады не выказаўся супраць. Так што, бачыце, і галоснасць была захавана, і, мяркуючы па ўсім, нас з маўклівай любоўю накіравалі ў пасажыры знакамітага цягніка. Дарэчы, «Наша Ніва» пашкадавала, што ў склад Экспрэса не патрапіў А. Разанаў, У. Арлоў, А. Глёбус, С. Адамовіч. Я таксама шкадую...

**— Як выглядае наша літаратура на еўрапейскім узроўні? Некаторыя кажуць пра мястэчковы характар беларускіх твораў і творцаў...**

— Местачковы — не значыць кепскі, слабы. Для мяне асабіста эпітэт «местачковы» наогул мае дадатную ступень. Я сам з мястэчка і добра ведаю, што такое местачковая культура працы, местачковы стыль адзення, местачковае хараство святочных дзён. Урэшце — местачковае выхаванне. Гэта, напрыклад, калі дзіця не толькі першым вітаецца з дарослым, але яшчэ пры гэтым і здымае шапку. На жаль, сённяшняе беларускае мястэчка ўжо страціла шмат сваіх добрых традыцый, але гэта, як кажуць, не зусім ягоная віна...

У свой час крытыкі падзялілі літаратуру на гарадскую і вясковую. Гэта быў абсалютна савецкі падзел, паводле якога паняцця «мястэчка» эстэтычна не існавала, а калі раптам з'яўлялася, то павінна было ўспрымацца толькі ў адмоўным, нават пагардлівым сэнсе...

Дык вось, трэба часам прыслухоўвацца, хто нашу літаратуру называе местачковай. Калі гэта робяць тыя людзі, якія лічаць местачковым і Марка Шагала, тады за такую атэстацыю мусім дзякаваць. А калі пачынаюць пляўузгаць недарэкі з рэліктавай савецкай свядомасцю, — то ці варта браць да ўвагі. Што ж датычыцца пытання, як выглядае наша літаратура на еўрапейскім узроўні, то скажу: наша прыгожае пісьменства на фоне Еўропы тое ж самае, што наш Нёман на фоне Рэйна. А калі без метафар, то перш за ўсё трэба клапаціцца аб тым, каб нас ведалі. А гэта ўжо задача дзяржаўнага кшталту. У нас нарэшце павінен з'явіцца інстытут перакладчыкаў беларускай літаратуры. Вядома, з прываблівым фінансавым грунтам.

**— Маршрут экспрэса пралёг і праз Беларусь. Якое ўражанне засталося ў замежных пісьменнікаў ад нашай краіны?**

— Мяркую, што ўражанне засталося светлае. Беларусь прыняла гасцей шчыра і годна. Дарэчы, толькі ў нас былі надрукаваны творы ўдзельнікаў экспрэса. Напрыклад, «Полымя» ахвяравала гэтай пачэснай справе больш за 70 (!) старонак. «Лім» і «Чырвоная змена» таксама прысвецілі творчасць вандроўных еўрапейцаў. Для параўнання: пачынаючы з Партугаліі, аўтары скрозь атрымлівалі не часопісы і газеты са сваімі вершамі і апавяданнямі, а сціплыя камп'ютэрныя раздрукоўкі. Праўда, у Латвіі ў нейкім часопісе змясцілі апавяданне нашага Андрэя Федарэнкі. Не лішне будзе заўважыць, што толькі ў нас (ды яшчэ ў Калінінградзе) тры разы на дзень пісьменнікі сталавалася бясплатна... У Брэсце быў прыпынак на паўтары гадзіны. За гэты кароткі час мае землякі берасцейцы прадэманстравалі сапраўдны цуд гасціннасці. Былі зычлівыя прывітанні, вершы, песні, кветкі і... зноў жа бясплатны (!) пачастунак. Шведская паэтэса Маргарэта Сары расчулена ўсклікнула: «Мы для гэтых добрых людзей нічога добрага не зрабілі, а яны нас так цудоўна сустракаюць!»

**— Хто фінансаваў праект?**

— Усе краіны, праз тэрыторыю якіх пралягаў шлях экспрэса. З нашага боку самы дзейсны ўдзел прынялі Міністэрства культуры, Дзяржаўны камітэт па друку, Мінгарвыканкам, Саюз беларускіх пісьменнікаў, Нацыянальная бібліятэка, Літаратурны музей Янкі Купалы, Літаратурны музей Максіма Багдановіча, бібліятэка імя Янкі Купалы, Беларуская чыгунка...

Каб мой адказ на гэтае пытанне не заставаўся такім пералікова-сумным, згадаю вясёлае: інтэлігентная «Наша Ніва», радуючыся за беларускую дэлегацыю, у маі паведамляла: «... Іпатава, Дранько-Майсюк і Федарэнка едуць у Еўропу на дармаўшчыну...» Мушу засмуціць маю любімую газету: у Лісабон, адкуль пачалося падарожжа, мы паляцелі за свае грошы.

**— У якіх краінах падчас гэтай вандроўкі былі перакладзены вашы творы?**

— У Партугаліі, Іспаніі, Францыі, Германіі, Літве. Былі цікавыя сустрэчы з перакладчыкамі. Найбольш запомнілася знаёмства з 34-гадовым Андрэем Рубцовым, які пераклаў мае вершы на іспанскую мову. Андрэй — выхаванец мінскага інстытута замежных моў, жыве ў Мадрыдзе, мае кветкавы бізнес у Эквадоры. Андрэй не ведае, што такое слёзныя ўздыхі пра маці Беларусь, а ведае, як шляхетна і карысна працаваць дзеля Беларусі. Ён збірае беларуска-іспанскі слоўнік і ні ў кога не будзе прасіць грошай на выданне гэтага слоўніка. Рускі па бацьку і беларус па маці, Андрэй Рубцоў не ўмее прасіць, а ўмее зарабляць.

**— Якія чакаюцца творчыя вынікі падарожжа?**

— Кожны з «пасажыраў» экспрэса павінен напісаць твор для кнігі «Літаратурны даведнік: Еўропа 2000». Пра што буду пісаць я? Ды, мусіць, пра агульнавядомае: сёння ў Еўропе, прынамсі на яе захадзе, назіраецца высокі ўзровень эканамічнай кан'юнктуры і адначасова — еўрапесімізм... Еўрапесімізм — катэгорыя аб'ёмная. Нам, беларусам, яна больш зразумелая тады, калі мы ўспрымаем яе як праблему нацыянальнай мовы.

**— Ці траплялі вы ў смешныя або непрыемныя сітуацыі?**

— У непрыемныя сітуацыі, дзякуй Богу, не трапляў, а смешныя — здараліся. Часам я іх сам правакаваў. Напрыклад, прысвяціў маладому італьянскаму празаіку такія радкі:

*Хай італьянскае віно*
*Жыве заўсёды, бо яно*
*Стварае сэрцу момант яркі —*
*З'явіцца ў госці да Петраркі.*

Экспромт італьянцу настолькі спадабаўся, што, паўтараючы за мной, ён яго вывучыў на памяць. І пасля, дзе б мы ні сутыкаліся, у якасці вітання ён чытаў мне гэты вершык. Літаральна скрозь — у гатэльным калідоры, у вагонным тамбуры, у музеі Прада, у Луўры... Аднойчы мы апынуліся ў адной берлінскай прыбіральні, і з таленавітых вуснаў нашчадка Петраркі я тут жа пачуў па-беларуску: «Хай італьянскае віно...»

**— Паэта Дранько-Майсюка ведаюць як аўтара цудоўных вершаў пра каханне. Магчыма, у Мадрыдзе ці ўсё ў тым жа Парыжы, адбылася сустрэча, якая абудзіла ў сэрцы найбольшае рамантычнае хваляванне?**

— Сустрэча такая адбылася. Сустрэча са спадарыняй Эл...

## У Зэльве адзначылі 90-ыя ўгодкі Ларысы Геніюш

**У нядзелю, 6 жніўня, у Зэльву з усіх куткоў Беларусі з'ехаліся людзі, каб адзначыць 90-годдзе з дня нараджэння вя-лікай беларускай паэткі Ларысы Геніюш.**

Урачыстасць пачалася ў Зэльвенскай Троіцкай царкве. Тут адбылося набажэнства ў гонар паэткі, а таксама была адкрыта мемарыяльная шыльда. Упершыню ў гісторыі Беларусі праваслаўная царква ўшанавала такім чынам памяць пра беларускую паэтку. У свой час падобнае зрабіў каталіцкі касцёл, калі ўшанаваў памяць беларуска-польскага паэта Уладзіслава Сыракомлі.

На мемарыяльнай шыльдзе, якую адкрылі ў Зэльвенскай царкве, выбіты словы:

На зямлі беларускай мае алтары.
Ларыса Геніюш (1910-1983)
Паэтка і хрысціянка
*Ад удзячных нашчадкаў у 90-ыя ўгодкі.*

З Троіцкай царквы землякі і госці пайшлі на мясцовыя могілкі, дзе знаходзіцца магіла Ларысы Геніюш. На магілу былі ўскладзены кветкі, а зэльвенцы і пісьменнікі памянулі яе добрым словам.

У гэты дзень у зэльвенскім РДК адбыўся вялікі літаратурны вечар. Яго адкрывала і вяла старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава. На вечары выступілі пісьменнікі Уладзімір Мазго, Міхась Скобла, Юрка Голуб, Анатоль Кудравец, Валянціна Аксак і іншыя. Бард Эдуард Акулін спяваў песні, а зэльвенскі мастак Юрый качук падараваў партрэт паэткі Зэльвенскай бібліятэцы.

Пасля паэтычнай вечарыны ўсе ўдзельнікі ўрачыстасці паглядзелі мастацкі фільм пра Ларысу Ге-ніюш "Птушкі без гнёздаў"...

## Адкрыты помнік Генадзю Карпенку

**27 ліпеня на мінскіх Усходніх могілках быў адкрыты помнік Генадзю Карпенку, беларускаму дзяржаўнаму дзеячу, якога нястала 6 красавіка мінулага года.**

Падчас жалобнага мітынгу, у якім прынялі ўдзел каля сотні чалавек, выступіла жонка Генадзя Карпенкі Людміла, якая падзякавала прысутным за тое, што яны прыйшлі, і выказала шкадаванне з нагоды адсутнасці аўтара помніка скульптара Івана Міско. Людміла Карпенка не згадвала акалічнасці смерці мужа, але ў заканчэнне сваёй прамовы сказала: "Я хачу сказаць: няхай будуць праклятыя тыя людзі, якія ўчынілі гэта зладзейства і працягваюць гэта рабіць"...

Цырымонія на мінскіх Усходніх могілках скончылася спяваннем беларускага рэлігійнага гімна "Магутны Божа".

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Doctor found a home in Monticello's heart

## Smorstok retires after 60 years in medicine

Monticello (Minn.) Times–Thursday, July 27, 2000



Dr. Matthew Smorstok and Dr. Donald Maus, pictured here in 1985, were charter members of the hospital medical staff.

*by Laurie Dennis*

On Monday, July 17, Dr. Matthew Smorstok was able to enjoy a leisurely lunch at Perkins.

After sixty years in medicine, the 85-year-old Monticello physician had just that day become a retiree.

"As of now, I have no patients," he said. "For the first time, I have no responsibilities."

The well-known town doctor, beloved for his kindly demeanor, his impeccable manners, his sense of humor and his dedication to medicine, has decided to hang up his stethoscope.

The public can celebrate Smorstok's long career in Monticello at an open house Friday from 1:30 to 4 p.m. in the boardroom of the Monticello-Big Lake Hospital.

He has no specific plans for his retirement, and when asked will paraphrase poet Robert Burns, "The best laid plans of mice and men often go awry."

But there are all those hobbies–he collects Bibles and cameras and likes to play chess. He'll continue his visits to Osowski's Flea Market, where he's such a regular that people call out "Dzien dobry!" (hello in Polish) when they see him. And he'll have more time to enjoy the view of the Mississippi River floating past his home on West River Street, that same view that first attracted him and his wife, Stella, to this town so many years ago.

"We fell in love with Monticello from the beginning–the river and the big beautiful trees," said Stella. "We have peace and freedom in our back yard. Matthew is a quiet man and he likes our peaceful yard."

### The mark of war

It was an unlikely and war-torn path that led the son of a Byelorussian farmer whose mother wanted him to become a priest to a career in medicine across the Atlantic Ocean in Monticello.

Smorstok said he decided early on to become the first in his family to practice medicine.

"I wanted to be useful," he explained. "I thought it would be a good idea to help those people who were sick."

He tested into Vilna University, in what is now the capital of Lithuania but was then a part of Poland, and earned his medical degree in December 1939. This was just three months after Hitler and Stalin began to invade and partition Poland.

Smorstok had always intended to be a general practice doctor. He began his career as a railroad surgeon and was briefly ordered to Moscow to study for a specialty in ear, nose and throat medicine. However, the chaos of war soon took over Smorstok's destiny. When the Nazis invaded Russia in the summer of 1941, Smorstok made his way through the war zone, landing at a hospital west of Minsk where he met Stella, a nurse from Warsaw. The two married in 1942. They eventually were sent–together with their baby, Emilia, and Smorstok's father–to Nordhausen, a concentration camp in Germany, where Smorstok spent nine months serving the medical needs of 12,000 prisoners of war. The camp was liberated in April 1945, and Smorstok later learned that the Allied troops entering Nordhausen included one Dr. William Hart, an officer in the medical corps who would soon be offering him a job at Monticello's Hart Hospital.

Smorstok's invitation to the United States came not through Hart, though, but through a small town just west of St. Cloud interested in Smorstok's remarkable linguistic abilities.

"Freeport, a very German-Catholic town, wanted a doctor who could speak German," he explained. "The priest in Freeport helped get me here to Minnesota. I liked Freeport very much; it was a small farming community."

Unfortunately for Freeport, Smorstok could not practice medicine in America without extensive retraining and recertification.

He attended the University of Minnesota, becoming a student again after ten years as a doctor in Europe.

"Sometimes, I felt a little strange," he admitted.

He and Stella worked hard to learn English, renting an apartment in northeast Minneapolis and living off of Matthew's $25 per month salary as an intern at St. Mary's Hospital.

"It was an interesting time," remarked Stella.

When he took his medical board exams, Smorstok still lacked confidence in English, so he wrote some of the answers in Latin. Luckily, one of his examiners was also fluent in that language and translated Smorstok's writing for the others. Smorstok passed.

Though he finally had a license, Smorstok did not have the means to start his own private practice. The head of the interns at St. Mary's was also a friend of Dr. Hart, and he directed Smorstok to Monticello.

"I wanted to go to Freeport, but I couldn't afford to open a clinic there," said Smorstok. "I didn't even have a car. The only way I got to Monticello was through Dr. Hart, who sent his daughter to get me."

Smorstok started his career in Monticello on Aug. 8, 1950. "Hart Hospital has new staff doctor," announced the headline on the front page of the Aug. 10 issue of the Times.

Once the Smorstoks arrived in the small, rural village of Monticello, they never looked back. The war years in Europe had taken a terrible toll on the family (Smorstok's father was killed by an Allied bomb during an errand to get milk), and they thrived on the peace and prosperity they found in America's Midwest.

"I probably like it here more than some people who were born here," Smorstok said. "I had no interest to go back to Communism in Poland or to the war recovery in Germany. War is atrocities."

### Obstetrics to geriatrics

Smorstok was soon immersed in his work delivering babies, conducting exams and handling emergencies at Hart Hospital. He made headlines in May 1954 when he delivered triplets to the Blaido family, two boys and a girl who were all underweight but all survived. He joined the school board, serving for 12 years, nine as chair. He helped out at football games as the team doctor. (There his complicated last name, which a judge had changed from Smorszczok to Smorstok when he and his wife became citizens, was further shortened to "Smoky" by football players.)

"They gave me the football jersey '00,' " he noted. "I still have that jersey."

Smorstok claims to have liked everything about his new job in Monticello.

"Especially the people," he said. "They were so friendly to me. People would call and give me directions for a house call–oh, weird directions. And sometimes at two or three in the morning, I would walk up to the wrong house and wake everyone up. But they didn't get mad. They would put their clothes on and walk me to the correct house."

Smorstok's affection for Monticello was returned.

"He's always been the kindest, gentlest, most polite doctor I've every worked with," said Ruth Osell, a former nurse at Hart Hospital.

"He's a very dedicated man, the kind who would never refuse any request," said Dr. Donald Maus, who joined Smorstok and Hart in 1963 and has taken over Smorstok's role as medical director of the nursing home. "I've never met anybody quite like him."

Initially, Smorstok developed a reputation in obstetrics.

"He loved delivering babies and he was very, very good at it," said Osell.

Smorstok himself likes to tell the story of the football game at which he was startled to realize that he had delivered all 11 of the players that he was watching as team doctor.

"Anybody born in Monticello between 1950 and 1964–I delivered most of them," Smorstok said.

That would include Russell William Gavin, the first baby born in the new Monticello-Big Lake Hospital, which opened in the summer of 1965.

But despite his expertise in delivering babies, Smorstok came to be known for his medical skills at the other end of the age spectrum: in geriatrics.

His ties to nursing home care actually date to 1952, when Mel Worth, owner of the LaRie home, asked Smorstok to be his referral doctor.

"The only requirement then for a nursing home was that you have a doctor available," Smorstok said. "It later became a requirement to have a medical director."

Then in 1964, Smorstok's ties to the elderly in Monticello were actually strengthened when he took a job out-of-town. By that time, Hart had sold his practice to Smorstok and Maus.

"But I was not too good at the business part, so I decided to pursue my education again," Smorstok said. "It was always my ambition to become a professor of medicine."

Smorstok began two decades of commuting to the University of Minnesota's Minneapolis campus, where he worked in health services. Meanwhile, back at home, Smorstok continued to care for the 70-plus residents in the nursing home.

Each workday, Smorstok stopped by the Washington Street home (in what is now the Counseling Center) on his way back from the University, developing a habit of being chronically late for dinner.

"On Mondays, we did our official rounds," said former hospital district long-term care director Olly Krahl, who worked with Smorstok at the nursing home from 1974 until her retirement last year. "We'd work together until 10 p.m. On the other nights, he'd check in to see if anything had come up. Usually something had."

Krahl said Smorstok was famous for his willingness to check on a resident, no matter the time of day or night.

"He had a saying, 'If it deserves a call from the nurse, it deserves a visit from the doctor,'" she said, adding that such attention wasn't lucrative. "It used to be that doctors would only get reimbursed (by federal insurance) for one visit per month to a resident, but Dr. Smorstok would visit the same resident over and over again all month long. This man didn't care about making money."

Krahl said Smorstok was also legendary for his old-world manners–his polite bows and his formal speech.

"I used to bring the residents into an exam room for their monthly check-ups and he never failed not to stand up when they came through the door and give his distinctive little bow," Krahl said. "He treated them all like Mr. King and Mrs. Queen and they loved him for it."



**Dr. Matthew Smorstok was happy to lead the River Fest parade as Monticello's Citizen of the Year in 1984.**

Smorstok reserves the use of first names for only his close family members, addressing all others formally.

"After all these years, he still calls me Mrs. Osell," said his former nurse.

"As staff, we would call ourselves by our first names, but to Dr. Smorstok we would almost unconsciously switch to 'Mr.' and 'Mrs.,' " said Krahl.

After Smorstok retired from the University in 1984, he continued his affiliation with the nursing home. In fact, he championed the effort to build the current 91-bed facility on East River Street, which came up for a vote in September 1984. The public said yes to the $4.5 million bond issue to build the home.

"I know that the reason the bond issue passed was his passion for it," said hospital district Executive Director Barb Schwientek. "He's always been an advocate for the elderly in this community."

For his part, Smorstok chuckles over his tendency to speak out.

"I learned to agitate people in Soviet Russia," he said with a grin. "I used that skill to convince people to build the hospital (in 1965) and to build the nursing home."

But care for the elderly is no laughing matter to the doctor who was among the first in the nation to be certified as a nursing home medical director, requiring an expertise in both clinical and long-term care medicine.

"Our nursing home is one of the best in the state," he said. "And the elderly deserve the best care."

Smorstok's dedication to his work has not gone unnoticed. In 1984, Monticello named him Citizen of the Year. In 1986, the new nursing home was dedicated in his honor. His portrait still hangs in the nursing home lobby, though the sign, "Reserved for Dr. Smorstok," is gone from his parking stall.

"I took the sign down on my last day of work," he said.

### It takes one to know one

The boy on a farm in Poland who dreamed of becoming a useful doctor has more than fulfilled that goal in Monticello. He has saved lives, improved health, nurtured a growing medical community and championed care for the elderly. And he has done it all with good humor and great humility.

"He's the most sincere gentleman you ever want to know," said Schwientek.

Smorstok has always been quick to praise the abilities of those around him. When the new, expanded nursing home opened its doors in the spring of 1986, Smorstok attributed its success to its nursing staff.

"It takes people who can do more than is required–and we have them," Smorstok said.

Indeed. Monticello has had one in particular for the past 50 years.

"He's a great man," said Krahl. "I don't think anyone can fill his shoes."

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



**Дабрачыннасьць**

# Дапамагаць становіцца ўсё складаней

**Генадзь Кесьнер**

Фэдэральная працоўная група "Дзеці Чарнобыля" зь Нямеччыны зьбіраецца й надалей аказваць гуманітарную дапамогу пацярпелым ад буйнейшае ядзернае катастрофы ў сьвеце рэгіёнам Беларусі. Ейным партнэрам у нашае краіне зьяўляецца Беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля". Кіраўнік фэдэральнае працоўнае групы прыбыў зь візытам у Менск.

Пастар эвангелічнае царквы зь Нямеччыны Буркхард Хомайер супрацоўнічае зь Беларускім дабрачынным фондам "Дзецям Чарнобыля" цягам амаль дзесяці гадоў. Фэдэральная працоўная група "Дзеці Чарнобыля", якую ён ачольвае, дапамагла арганізаваць аздараўленчы адпачынак дзесяткам тысяч дзяцей з раёнаў, пацярпелых ад чарнобыльскае навалы. Тысячы тон гуманітарных грузаў прывезьлі немцы ў гарады й вёскі Гомельскае, Магілеўскае, Менскае й Берасьцейскае вабласьцей. Высакародная справа, якою займаюцца нашыя нямецкія сябры, почасту не знаходзіць разуменьня й падтрымкі ва ўладных структурах нашае дзяржавы. Высокія чыноўнікі імкнуцца кантраляваць пастаўкі гуманітарнае дапамогі ў Беларусь, што істотна ўскладняе дзейнасьць і замежных, і айчынных дабрачынцаў.

Паводле словаў пастара Хомайера, апошнім часам сытуацыя крыху выправілася, хаця штучныя перашкоды робяцца й сёньня.

Буркхард Хомайер: У параўнаньні зь мінулым годам становішча крыху выправілася. У той час сытуацыя выглядала проста катастрафічна: гуманітарная дапамога не паступала, грузавікі стаялі на мяжы, часта іх разладоўвалі проста на памежных пераходах. Зараз нешта зьмянілася, хаця шмат пытаньняў і праблемаў засталося. У першую чаргу гэта тычыцца атрымальнікаў - у нашым прыкладзе Фонду "Дзецям Чарнобыля" -, які мае й цяпер шмат складанасьцяў.

Паводле словаў Буркхарда Хомайера, дзяржаўнае рэгуляваньне пастаўкаў гуманітарнае дапамогі не павіннае мець мейсца ў грамадзтве. Аказаньне недзяржаўнае дапамогі -- справа грамадзкіх арганізацыяў і асобных людзей, але ня ўладных структураў.

Б. Х.: У нас у Нямеччыне ёсьць такая завядзёнка, што дзяржава мае права ствараць і ўдакладняць толькі рамкавыя ўмовы пастаўкаў гуманітарнае дапамогі. Галоўная задача -- стварыць гэткія ўмовы, калі б ня толькі замежжа аказвала рэальную дапамогу, але й самі грамадзяне Беларусі выяўлялі актыўнасьць і займаліся самадапамогаю, а мы спрыялі б ажыцьцяўленьню іхных плянаў. Ня самае важнае -- даставіць гуманітарную дапамогу, разьмеркаваць яе. Галоўнае - каб людзі ўсьвядомілі, што яны ня маюць права быць пасіўнымі, што яны павінныя самі рабіць што-небудзь для сябе. Людзі павінныя разумець, што можна самім арганізаваць акцыі самадапамогі ў пацярпелых ад Чарнобылю раёнах. Гэткая пазыцыя беларусаў адпавядала б нашым уяўленьням і мэтам. Я спадзяюся, што гэта адчуваюць і самі жыхары вашае краіны.

Як адзначыў кіраўнік нямецкае Фэдэральнае працоўнае групы "Дзеці Чарнобыля" пастар Буркхард Хомайер, ня гледзячы на даўніну чарнобыльскае трагедыі, жаданьне замежнікаў аказваць дапамогу ахвярам радыяцыі не памяншаецца, хаця ёсьць і пэўныя расчараваньні - ад стаўленьня да гэтае праблемы беларускіх уладаў.

Б. Х.: Шчыра кажучы, бальшыня немцаў расчаравалася ў свае дабрачыннае справе ўвогуле. Але ахвотнасьць займацца дабрачыннасьцю ў дачыненьні да Беларусі, аднак, амаль не зьменшылася. Аднак, у першую чаргу, у адрозьненьне ад пачатку дзевяностых гадоў, мы жадаем працаваць на раўнапраўнае аснове, усьведамляючы тое, што на мейсцы людзі мусяць разумець: зь неба нічога ня зваліцца, людзі могуць дапамагчы сабе ў першую чаргу самі, але ніхто іншы. Датычна маёй абшчыны, іншых дабрачынных арганізацыяў, то мы ведаем тых, зь кім працуем. Мы й надалей будзем весьці нашую працу, бо ўжо ня можам уявіць сабе, што можа быць нешта йнакш.

Нямецкая Фэдэральная працоўная група "Дзеці Чарнобыля" мае ў нашае краіне надзейнага партнэра - Беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля" --, пра што й сьведчыць пастар Хомайер.

Б. Х.: Мы супрацоўнічаем даволі працяглы час. Мы ставімся да працы Фонду зь вялікаю павагаю. Нашыя ініцыятывы будуць і надалей супрацоўнічаць з гэтаю структураю, якая цягам часу зацьвердзіла сябе надзейным і сталым партнэрам нашых дабрачынных суполкаў. Дзейнасьць падобных арганізацыяў ствараe магчымасьць усталяваньня ў Беларусі цывільнага грамадзтва, дапамагае ў будаўніцтве агульнага эўрапейскага дому.

У блізкае будучыні супрацоўніцтва беларускае й нямецкае арганізацыяў ня будзе абмяжоўвацца выключна аказаньнем дапамогі ахвярам Чарнобылю. Як адзначыў Буркхард Хомайер, ёсьць і іншыя аспэкты сумеснае дзейнасьці, на якіх айчынныя й замежныя дабрачынцы мусяць засяродзіцца.

Б. Х.: Адзначу некалькі момантаў. Тыя дзеці, якіх мы прымалі ў Нямеччыне на аздараўленьне дзесяць гадоў таму, ужо вырасьлі, сталі адносна самастойнымі людзьмі. Таму я лічу, што праца з моладзьдзю ёсьць вельмі важным аспэктам нашае сумеснае дзейнасьці. Гэта й моладзевыя цэнтры, абмен валанцёрамі, якія знаходзяцца на альтэрнатыўнае вайсковае службе. Яшчэ адная вельмі важная праблема – гэта йснаваньне рынку паднявольных. З кожным днём скрадаюць людзей, якіх ператвараюць у рабоў, іхную працу выкарыстоўваюць дзеля ўласнае выгоды злачынцы-скрадальнікі. Вельмі вялікая праблема – гандаль жанчынамі. Мы сумесна зь беларускімі партнэрамі прыкладаем шмат намаганьняў, каб давесьці да сьведамленьня маладых жанчынаў небясьпеку ўцягваньня іх у падобныя авантуры. Таму адзначу, што нашае супарцоўніцтва не абмяжоўваецца выключна чарнобыльскімі праблемамі. Поплеч з вышэй азванымі стаяць пытаньні экалягічнага выхаваньня, праблемы далейшага разьвіцьця Беларусі ў аспэкце зьліквідаваньня наступстваў Чарнобыльскае катастрофы. Калі сёньня ня будуць зробленыя адпаведныя захады, то будучыня выставіць нашым нашчадкам вельмі вялікія рахункі. Ёсьць старадаўняе нямецкае выслоўе: хто прыходзіць запозна, - таго штрафуе жыцьцё.

Паводле словаў Буркхарда Хомайера, у наступным годзе, у пятнаццатую гадавіну катастрофы на ЧАЭС, нямецкія й беларускія дабрачынцы плянуюць правесьці шэраг буйных акцыяў абароны ахвяраў Чарнобылю як у Беларусі, гэтак і за межамі нашае дзяржавы.

---

## КАНТЭЙНЕР У ЗОНУ ЧАРНАБЫЛЮ...

На мінулым тыдні Мікола Прускі з жонкай Верай, у выдатным супрацоўніцтве з вялікай амэрыканскай харытатыўнай арганізацыяй ды сям'ёй Анатоля і Натальлі Лук'янчук, быў высланы 20-ці футовы кантэйнер з мэдычнымі прэпаратамі ў шпіталі Парычаў і Сьветлагорску, што каля Гомля на Беларусі.

Цяпер будзем уважна прыглядацца, каб кантэйнер дайшоў на паданыя намі адрасы ды быў дакладна разьдзелены па нашым указаньні.

---

## Гэты дзень яшчэ не прыйшоў

Напярэдадні абмеркаваньня на чарговай сэсіі АБСЭ пытаньня аб накіраваньні міжнародных назіральнікаў на парлямэнцкія выбары ў Беларусь прадстаўнік ЗША пры АБСЭ Дэвід Джонсан выступіў з заявай у справе Беларусі.

ЗША падтрымліваюць прапанову прадстаўніка беларускага ўраду, каб абмеркаваньне сытуацыі мела аб'ектыўны характар. Мы глыбока перакананыя, што магчымыя рэкамэндацыі павінны базавацца на рэальных дзеяньнях, а не на абяцаньнях.

У красавіку тройка АБСЭ высунула чатыры ўмовы ўраду Беларусі, якія ён павінен быў выканаць дзеля таго, каб АБСЭ накіравала міжнародных назіральнікаў на выбары.

На жаль, ад гэтага часу мы не заўважылі сьведчаньняў таго, каб урад Беларусі дасягнуў нейкага прагрэсу ў выкананьні гэтых умоваў. Абяцаньні? Так. Прагрэс? Не.

Дэлегацыя Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы (ПАСЕ), якая наведала Беларусь у пэрыяд ад 31 ліпеня да 3 жніўня, таксама прыйшла да гэтай высновы і дала рэкамендацыі не накіроўваць назіральнікаў.

У выніку перамоваў з беларускай апазыцыяй мы прыйшлі да высновы, што яна падзяляе гэты погляд. У лісьце старшыні каардынацыйнай Рады дэмакратычных сілаў апазыцыя заклікае міжнародную супольнасьць не накіроўваць назіральнікаў. Пасьля візыту дэлегацыі Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы ў Менск беларускі ўрад выступіў з некаторымі абяцаньнямі, якія адпавядаюць умовам "тройкі". Падобныя абяцаньні рабіў і міністар замежных справаў Беларусі, які яшчэ ў 1997 годзе ў лісьце да старшыні Эўрапэйскага Зьвязу заявіў, што беларускі ўрад адданы справе ўстанаўленьня поўнага балянсу ўлады паміж уладнымі структурамі.

Тры гады пазьней, адным з умоваў "тройкі" АБСЭ па-ранейшаму застаецца патрабаваньне павелічэньня ўлады парлямэнту. Цяпер беларускі ўрад сьцьвярджае, што ў яго папросту няма часу на выкананьне гэтага патрабаваньня, хаця прайшло ўжо тры гады перад выбарамі, і абяцае, што над гэтай праблемай будзе працаваць наступны парлямэнт. Мы лічым, што ня трэба спакушацца абяцаньнямі, у якіх няма нічога новага, якія недастатковыя і не характарызуюцца пэрспэктывамі рэальнага ажыцьцяўленьня.

Гэтыя выбары адбудуцца ў часе росту палітычных рэпрэсіяў і перасьледу журналістаў. Амаль штотыдзень адбываюцца суды над вядомымі палітычнымі дзеячамі. Некаторыя, як мы ведаем, увогуле загінулі. Шматлікія незалежныя газэты былі зачыненыя ўладамі. Мірныя дэманстрацыі жорстка разганяюцца. Абвяшчэньне ўрадам Лукашэнкі так званага "пэрыяду міру" адбылося запозна, і гэтую прапанову цяжка рэальна ацаніць як апазыцыі, так і нам. Аднак, нашыя першыя ацэнкі нельга назваць пазытыўнымі. Хаця, бясспрэчна, што свабодныя і справядлівыя выбары – важны і неабходны крок на шляху адраджэньня дэмакратычнай і незалежнай Беларусі – мэты, да якой мы ўсе імкнемся.

Накіраваньне місіі міжнародных назіральнікаў па просьбу беларускага рэжыму, які такім шляхам шукае прыкрыцьця для сваёй легітымнасьці, было б памылкай. Мы чакаем таго дня, калі міжнародная супольнасьць зможа апладыраваць беларускаму ўраду, які сапраўды быў бы адданы выкананьню міжнародных умоваў у справе свабодных і справядлівых выбараў. У гэтым выпадку мы прынялі б актыўны ўдзел у выбарах і накіравалі б назіральнікаў. Але, на жаль, гэты дзень яшчэ не прыйшоў.

*Дэвід Джонсан*

---

Паважаныя чытачы! Ці Вы ўжо пераслалі **Ахвяру** на нашу газэту?!

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# ДУМАЙ! ГЭТА ЗУСІМ НЕ БАЛЮЧА

Паміж выбарамі і рэвалюцыяй я выбіраю першае. І паміж выбавамі і выбарчым фарсам я таксама аддаю перавагу выбарам. Дык што ж будзе ўвосень гэтага года? Рэвалюцыя? Выбары? Фарс? Найбольш верагодна, што апошняе. На жаль, Лукашэнка адмовіўся зарыць сякеру вайны і адверг шлях рэальных перамоваў, пошуку кампраміса і згоды.

Восеньскія «выбары» у палату, гэта моцны палітычны сцэнар, які нельга недаацэньваць. Ва ўмовах, калі самы дэфіцытны тавар гэта інфармацыя, нават несправядлівыя выбары ў нямоглую структуру, нараджаюць хвалю чаканьняў. Людзі прагнуць зьменаў, народ гатовы пратэставаць, але праз адносна бясьпечную форму. Да адкрытага пратэста большасьць не гатовая, але яны сасьпелі сказаць сваё не з дапамогай бюлетэня. Аднак яны нават аддалена не ўяўляюць якімі будуць наступствы «пратэста пад кантролем». Прыступка чаканьняў нашмат вышэйшая за канчатковы вынік – вынікаў выбараў, які кіруецца, кантралюецца, маніпулюецца «Чырвоным домам». Гэты вынік ня бюдзе люстэркавым адбіцьцём грамадзкай думкі. А адсюль вынікае, што наступная хваля расчараваньняў як раз прыдзецца на пэрыяд прэзыдэнцкай кампаніі, на што ўласна і робіць стаўку рэжым.

Неабходны контрсцэнар, удзельнікамі якога стануць сотні тысячаў грамадзянаў, сцэнар, які ня дасьць завесьці грамадзтва ў загадзя падрыхтаваную пастку.

Чаму апазыцыя ня можа, не павінная ўдзельнічаць у сцэнары прапанаваным «Чырвоным домам»? Любыя спробы граць на полі Лукашэнкі, а гэта значыць граць без правілаў, безпэрспэктыўныя.

Трэба назваць рэчы сваімі імёнамі. Адна з галоўных прычынаў, што робіць выбары безсэнсоўнымі па сутнасьці, марнатраўнымі па выдатках – гэта адсутнасьць у палаты рэальных паўнамоцтваў. Увосень мы станем сьведкамі масавага, татальнага падмана выбарнікаў. Іх сотнямі тысячаў будуць тапіць у невыканальных абяцаньнях. «Чырвоны дом» у кааперацыі з кандыдатамі, дзяржаўнымі СМІ арганізуюць продаж нехадавога тавару, а менавіта палаты, выбарнікам. Па сутнасьці нам паказваюць «лялькy». Але ў рэкляме гэты орган будзе прадстаўлены ня меньш як выратавальная палачка для Беларусі, а кандыдаты – місіямі ад усявышняга.

У маім актыве дзьве пасьпяховыя перадвыбарныя кампаніі ў Вярхоўны Савет. Так, гэтыя выбары былі толькі адносна справядлівымі і адносна свабоднымі. І ў першым, і ў другім выпадку ўлада ня грэбавала ніякімі сродкамі, каб дэмакратычна настроеныя кандыдаты не атрымалі дэпутацкі мандат. Але была моцная матывацыя ўдзелу ў перадвыбарнай кампаніі. Вярхоўны Савет быў структурай, якая мела рэальныя паўнамоцтвы. Ён меў магчымасьць уплываць на сытуацыю. Ён выдаваў законы, кантраляваў бюджэт, уплываў на фармаваньне ўраду. Іншая справа, што большасьць у Вярхоўным Савеце і ў 1990 і ў 1995 годзе атрымалі антырэфарматарскія сілы.

Па-другое, на гэты раз працэс ня будзе нават мінімальна, ні справядлівым, ні шчырым. Пры ўмовах 1990 года апазыцыя можа рэальна разьлічваць на 35-40% галасоў. Будзе праслойка тых, хто ня мае партыйнае прапіскі і дакладных партыйных арыентыраў. Лукашэнка разумее, што ў справядлівай барацьбе не пермагчы. У красавіку гэтага года згодна з дадзенымі сацыялягічных апытаньняў колькасьць перакананых прыхільнікаў экс-прэзыдэнта зьменьшылася напалову. Сёньня ў клюбе фанатаў А.Г. каля 15% грамадзянаў пераважна пеньсійнага ўзросту. Інфляцыя аўтарытэта ўчорашнега куміра перавышае сярэднямесячную інфляцыю беларускага рубля.

«Чырвоны дом» мае намер рабіць стаўку выключна на сцэнары з загадзя вядомым вынікам. Лукашэнку не патрэбныя рызыкі гульні ў рулетку. Яму неабходны вынік. І ён ніколі ня пойдзе на тое, каб зрабіць выбарчы працэс празрыстым і падкантрольным. Дапусьціць апазыцыю ў выбарчыя камісіі значыць ускладаніць працэс фальсіфікацыяў… на прэзыдэнцкіх выбарах. Так, ён гатовы вылучыць фіксаваную квоту для апазыцыі, як, напрыклад, для інвалідаў у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня. Рэжыму нават выгодная наяўнасьць у палаце 5-6 вядомых апазыцыянэраў. Гэта жывыя доказы «плюралізма й дэмакратыі» для даверлівай Эўропы.

Ёсьць думка, што трэба пранікаць у сыстэму і перарабляць яе знутры. Тэзіс небясспрэчны, бо перш чым туды пранікнуць трэба асабіста паўдзельнічаць у бэтанаваньні рэжыма, а потым голымі рукамі гэты ж цэмэнт і адкалупваць. Сіламі легкіх двух дзесяткаў энтузіястаў можна толькі ганяць хвалі ў паветры Авальнае залі. Але калі стомленым прапануюць кватэру па вуліцы Лодачная, пасаду намесьніка міністра, альбо закрыццё крымінальнае справы на бліжэйшага 'роднага трэба чакаць, што іх колькасьць па прыкладу ВС 13 скліканьня скараціцца істотна.

Гучаць галасы, што палата можа стаць для апазыцыі публічнай трыбунай, дзьвярыма да дзяржаўных СМІ. Адкуль такая ўпэўненасьць, што дадуць тэлеэфір? На што яна абапіраецца? Узгадаем, колькі хвілінаў радыё і тэлеэфіра атрымаў Сямён Шарэцкі ў першай палове 1996 года, калі зьявіўся другім чалавекам у палітычнай іерархіі краіны, і ў той час знаходзіўся на далёкай адлегласьці ад апазыцыі. Нуль.

Выбары ў парлямэнт, гэта барацьба за ўладу. Выбары ў палату, гэта барацьба за прывілеі. Па сутнасьці ўсё зьвядзецца да прымітыўнага працэса працаўладкаваньня 110 чалавек. Гэта сьцьвярджэньне прадтрымлівае прыклад цяперашніх жыхароў палаты.

АГП не праваабарончая арганізацыя. Для нас актуальна ня назва структуры, а рэальныя функцыі і паўнамоцтвы, якімі яна валодае. Прынцыпова важны ня год выданьня канстытуцыі, а закладзеныя ў ёй прынцыпы разьдзяленьня ўладаў, парлямэнтарызма, вяршыні закона, якія працуюць на практыцы.

Пытаньне складаецца ў тым, ці будзе на Беларусі рэальна дзейсны парлямэнт альбо захаваецца васальская структура, якая дэ-факта зьяўляецца адзьдзелам адміністрацыі Лукашэнкі. Ці будуць на Беларусі зьмены альбо краіна яшчэ на некалькі год засядзе ў багне.

Відавочнае несупадзеньне інтарэсаў. Лукашэнка зацікаўлены і надалей спалучаць у сваёй асобе ўрад, парлямэнт і суд. А гэта ўжо пераапранутая, загрыміраваная дыктатура. Гэта спрыяльная глеба для свавольства. Няма грамадзянаў краіны, ёсьць свае і чужыя. Няма бюджэта дзяржавы, я ёсьць пэрсанальная кубышка.

Хто зацікаўлены ва ўдзеле апазыцыі ў восеньскай кампаніі на ўмовах вызначаных партыяй ўлады? Безумоўна сам Аляксандар Рыгоравіч. Для яго гэта азначала б пераможнае завяршэньне разьвязанай ім самім у лістападзе 1996 года вайны. Для апазыцыі і міжнароднай супольнасьці ўдзел у працэсе без выкананьня чатырох умоваў, фактычна азначае акт капітуляцыі. Па-другое, гэта сур'ёзныя палітычныя дэвідэнты на пэрспэктыву. Лукашэнка разглядае восеньскую кампанію як складовую частку прэзыдэнцкіх выбараў. Ва ўмовах крызіса, масавых расчараваньняў і разрыхленьня вэртыкалі яму як паветра патрэбная пераканаўчая перамога. Ён разумее, што той хто выйграе – валодае палітычнай ініцыятывай і псыхалягічнай перавагай над апанэнтам.

Зацікаўленым бокам зьяўляецца Крэмль. У яго стратэгічны інтарэс. Яму трэба падвесьці ўстойлівую прававую базу пад беларуска-расейскія адносіны. А гэта магчыма толькі ў выпадку прызнаньня вынікаў выбараў як унутры краіны так і за яе межамі. Відавочна, што Пуцін хацеў бы пазьбегнуць адносінаў з палітычна непаўнавартасным і не прызнаным парлямэнтам.

Палата прадстаўнікоў. Для іх гэта шанец рэабілітацыі за ўдзел у драматычных падзеях чатырохгадовай даўніны і магчымасьць атрымаць права на самаэкспарт у Эўропу.

Частка патэнцыйных кандыдатаў. Можна вылучыць дзьве вялікія групы. Першую складаюць цынічныя прагматыкі, якія разглядаюць палітычную дзейнасьць выключна як сходак лабіраваньня асабістых цікаўнасьцяў. Дл яіх гэта шанец, нахай і ў несумленным асяродку, зрабіць кар'еру. Другая катэгорыя, гэта рамантыкі. У іх вельмі аддаленае ўяўленьне пра сыстэму ўлады наагул і пра палату прадстаўнікоў у прыватнасьці. Яны шчыра думаюць, што ў стане зьмяніць сытуацыю. Іх роля выклікае спачуваньне. З прыстойных людзей, але нявопытных, наіўных палітыкаў вырабяць вяроўку, на якой потым павесяць краіну.

Партыі, альбо дакладней партыйныя групы, зьвязаныя ідэялягічнымі сувязямі роднасьці альбо залежнасьці ад рэжыма. Як правіла, гэта левыя альбо структуры палітычнага паўкрымінальнага бізнэса. У адных залежнасьць ад уласнага электарата, які цягнецца да левага па поглядах экспрэзыдэнта. У іншых, як адзначаў адзін калега, якія выконваюць функцыі «траянскага каня з жоўтымі зубамі» непасрэдная ўнутрыэканамічная залежнасьць ад «Чырвонага дома».

Апазыцыі прапануюць стаць донарам для рэжыма. Выбары па фармаце Лукашэнкі выконваюць функцыі апарата для штучнага дыханьня для рэжыма, які задыхаецца.

Зараз партыям падкідваюць вялікія тлустыя кавалкі ў спадзяваньні, што гэта народзіць апэтыт і выклікае палітычны ажыятаж. Спакуса сапраўды ёсьць. Набраць прахадны бал у палату апрануўшы шкуру «канструктыўнае апазыцыі» не складана.

Якія магчымыя наступствы для рэжыма, пры ўмове няўдзела дэмакратычнае апазыцыі ў трагікамедыі пад назвай выбары і іх непрызнаньня з боку міжнароднай супольнасьці.

**1.** Вялікія фінансавыя выдаткі бяз выніка і дасягненьня канчатковай мэты. Без палітычнага прызнаньня палата застанецца безкарыснай цацкай, якая шмат каштуе.

**2.** Узьнікне дыскамфорт ва ўзаемаадносінах з Крамлём. Стаўкі сцэнара палацавага пераварота падвысяцца ў кошце.

**3.** Захаваецца напружаннасьць ва ўзаемаадносінах з Эўропай і ЗША. А гэта значыць, тромбы будуць перакрываць шлях руху інвэстыцыяў, крэдытаў, тэхнічнай дапамогі.

**4.** У Лукашэнкі ня будзе магчымасьці ні прад'явіць скальп апазыцыі, ні станчыць на палітычным трупе зьнішчанага апанэнта. Псыхалягічнае перавагі ў Лукашэнкі напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў ня будзе.

Некаторыя тактычныя перамогі па сутнасьці зьяўляюцца стратэгічнымі паразамі. Задавальненьне мае кароткатэрміновы эфэкт. Калі вам даюць магчымасьць зьбіць адну шашку, не сьпяшайцеся радавацца. Пасьля гэтага могуць зьняць чатыры вашыя і скончыць гульню.

*Анатоль Лябедзька, лідэр Аб'яднанае грамадзянскае партыі, намесьнік старшыні Вярхоўнага Савета.*

# Нам - пісьменства, расейцам - друк

**Галіна Абакунчык** – "Радыё Рацыя"

Беларускія ўлады распачалі падрыхтоўку да Дня беларускага пісьменства, які сёлета пройдзе 3 верасьня ў старажытным горадзе Заслаўе. Арганізатарамі сьвята выступаюць Дзяржаўны камітэт па друку, Міністэрства адукацыі й культуры, Нацыянальная акадэмія навук, Саюз пісьменьнікаў і Саюз журналістаў. З нагоды маючае адбыцца падзеі прэсавую канфэрэнцыю для журналістаў 22 жніўня правёў старшыня Дзяржаўнага камітэту па друку Міхаіл Падгайны. Сьвята Беларускага пісьменства, якое зладжваецца ў нашае краіне ўжо сёмы раз, сёлета пройдзе пад знакам асаблівага шанаваньня, так бы мовіць, праваслаўнага славянства.

Нават мейсца галоўных урачыстасьцяў - старажытнае Заслаўе -кіраўнік Дзяржаўнага камітэту па друку Міхаіл Падгайны назваў цэнтрам, адкуль па Беларусі распаўсюджвалася праваслаўная вера.

Дзень 3 верасьня, Указам Аляксандра Лукашэнкі абвешчаны афіцыйным днём сьвяткаваньняў, стане заключнаю часткаю ўрачыстасьцяў. А 30 жніўня, каля сьцены Берасьцейскае крэпасьці-героя, мітынгам ветэранаў Вялікае Айчыннае вайны распачнецца шлях традыцыйнае навукова-творчае экспэдыцыі "Дарога да сьвятыняў". Яе ўдзельнікі -- чальцы афіцыйных Саюзу пісьменьнікаў і журналістаў—пранясуць "Непагасную лямпаду" ад труны Гасподняе праз гарады й мястэчкі Беларусі й правядуць таксама

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



шраг сустрэчаў зь мяйсцовымымі жыхарамі. У прыватнасьці адзін з такіх прыпынкаў запляняваны ў горадзе Кобрыне з прычыны дзейнасьці ў горадзе музэя Суворава. Завершыцца паход ў Заслаўі, дзе заключную частку сьвяткаваньняў 3 верасьня ўрачыстым набажэнствам распачне •Мітрапаліт Філярэт.

У рамках Дня пісьменства мяркуецца таксама правядзеньне навукова-практычнае канфэрэнцыі пад назоваю "Ізяславам кніжнікам заснаваная" й " Паслы славянства". У апошняе, дарэчы, маюць брацъ удзел -- перадусім літаратары славянскіх краінаў -- Расеі, Украіны, Югаславіі, Бальгарыі. Магчымая прысутнасьць гасьцей з замежных краінаў вымушае беларускія ўлады, як гаворыцца, прыбрацца й дагледзець горад векавое даўніны, які нават дзяржаўнікі прызнаюць занядбаным й забытым.

М. П.: Заслаўе цяпер паднаўляюць будаўнікі. Горад атрымаў статус абласнога падпарадкаваньня, што таксама дасьць магчымасьць ягонага далейшага разьвіцьця, у тым ліку й у галіне экскурсійнага бізнэсу.

Паводле словаў спадара Падгайнага, сёлетняе сьвята ад мінулагодніх будзе якасна адрозьнівацца большым адыходам ад тыповых культурна-масавых мерапрыемстваў - у накірунку шырэйшае прапаганды айчыннага кнігавыданьня й перыядычнага друку. Заплянаваны гэтаксама актыўны ўдзел дзяцей й моладзі й беларускіх выдавецтваў, якія -- па меркаваньні старшыні Дзяржкамдруку -- маюцца выказаць асаблівую ўдзяку кіраўніку краіны за падтрымку беларускага пісьменства.

М. П.: Зь цяжкасьцямі, аднак, быў падпісаны Ўказ прэзыдэнта пра некаторыя эканамічныя палёгкі выдавецтвам, якія ўсё-ткі дапамаглі шмат каму выжыць у складаных умовах нашых дзён.

Кіраўнік Дзяржкамдруку назваў таксама лічбы, якія, гэтак вымавімся, без дадатковых камэнтараў характаразуюць сёньняшні стан Нацыянальнага кнігавыданьня.

Зыходзячы са словаў Міхаіла Падгайнага, колькасьць беларускамоўных кніг складае 20 адсоткаў ад агульнае колькасьці выдавецкае прадукцыі. Пры гэтым, на патрэбы айчыннага рынку беларускія прадпрыемствы загружаюць толькі 12 адсоткаў вытворчых магутнасьцяў. Астатнія – 88 – ідуць на задавальненьне інтэлектуальных густаў чытачоў Расейскае Фэдэрацыі.

## Амбасадар ЗША пры АБСЭ скептычна паставіўся да запэўніваньняў беларускіх уладаў

У заяве Пастаяннай Рады Арганізацыі па Бясьпецы і Супрацоўніцтву ў Эўропе (АБСЭ) ад 24 жніўня амбасадар Злучаных Штатаў Амэрыкі Дэвід Т. Джонсан выказвае сумніў наконт падрыхтаванасьці беларускага ўраду выканаць усе неабходныя ўмовы для прыезду місіі міжнародных назіральнікаў АБСЭ.

Нягледзячы на шматлікія запэўніканьні беларускага ўраду, Джонсан зазначыў, што "да гэтага часу мы не назіралі ніякага сапраўднага прагрэса з боку ўрада Беларусі па задавальненьні гэтых умоваў. Абяцаньні былі. Прагрэс адсутнічаў".

Ён таксама заўважыў, што ўрад так і не пашырыў паўнамоцтваў парлямэнта, палітычныя рэпрэсіі і перасьлед журналістаў працягваюцца, палітычныя дзеячы амаль штотыднёва аказваюцца ў судзе, шмат хто зь іх бязь вестак зьніклі. Урад зачыніў некалькі незалежных газэтаў, груба парушае правы грамадзянаў на мірныя сходы.

"Накіроўваць на Беларусь місыю міжнародных назіральнікаў будзе памылковым," – абагуліў Джонсан.

**КУРС ДОЛАРА**




## 25 ЖНІЎНЯ 1991 ГОДА ДЭКЛЯРАЦЫІ "АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ СУВЭРЭНІТЭЦЕ БЕЛАРУСІ" БЫЎ НАДАДЗЕНЫ СТАТУС КАНСТЫТУЦЫЙНАГА ЗАКОНУ.

Дзесяць годоў таму, 25 жніўня 1991 года, Дыклярацыі Вярхоўнага Савета "аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі" быў нададзены статус канстытуцыйнага закону. Пасьля жнівеньскага путчу ў Маскве на вуліцы Менска выйшлі тысячы людзей, якія ў выніку і схілілі Вярхоўны Савет да гэтага кроку, які стаў гістарычным.

## 14 жніўуня

***14 жніўня 1385 года ў мястэчку Крэва (зараз вёска ў Смаргонскім раёне Гродзенскай вобласці) паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай была падпісана унія (пагадненне аб хаўрусе).***

Пасля смерці ў 1382 г. польскага караля Людовіка, які не пакінуў пасля сябе нашчадка, каралём дзяржавы мог стаць аўстрыйскі герцаг Вільгельм, якога пад-трымліваў Тэўтонскі ордэн. Антыгерманская партыя ў польскім урадзе зрабіла выбар на карысць 35-гадовага вялікага князя літоўскага Ягайлы – уладара магутнейшай ва Усходняй Еўропе дзяржавы – і ініцыіравала падпісанне Крэўскай уніі.

Беларускі гісторык Вітаўт Чаропка слушна заўважае, што "зіхаценне каралеўскай кароны не асляпіла Ягайлу – вялікакняжацкі вянец даваў яму магчымасць валодаць зямлёй удвая большай за Польшчу, і не ад самалюбства згадзіўся ён стаць каралём". Гаспадар Вялікага княства кіраваўся жыццёвымі клопатамі: аб'яднаўшы сілы, можна было б не толькі стрымаць агрэсію Тэўтонскага ордэна – агульнага ворага дзвюх краінаў, які закрываў ім выхад у Балтыйскае мора і няспынна пагражаў стратай незалежнасці і анямечваннем, — але самім перайсці ў наступленне. І канешне, Ягайла не мог дапусціць, каб на трон суседняй дзяржавы ўзышоў стаўленік ненавіснага ордэна. Лепш самому... І вялікі князь пагадзіўся, паставіў подпіс пад актам уніі. Хто ведае, магчыма ў гэты лёсавызначальны момант ён думаў і пра будучыя перамогі беларуска-польскага войска над ваяўнічымі татарамі, што не давалі княству перадышкі сваімі няспыннымі набегамі; і пра тое, як, стаўшы каралём, пакарае нарэшце сваіх унутраных ворагаў, якія рвалі княства на кавалкі-ўдзелы. А можа, ён бачыў перад сабою не тэкст уніі, а вочы і вусны чатырнаццацігадовай польскай каралевы Ядвігі, сваёй будучай жонкі, яе гнуткі дзявочы стан? Хто ведае...

Згодна з умовамі Крэўскай уніі, Ягайла быў абавязаны акаталічыць ўсё праваслаўнае насельніцтва ВКЛ. Аднак няма ніякіх звестак, каб дадзены хімерычны праект новы кароль беларуска-польскага гаспадарства ажыццяўляў больш-менш настойліва. Гэты пункт быў патрэбны, каб улагодзіць рымскага папу. А вось у адносінах да нехрышчонага насельніцтва княства акаталічванне праводзілася досыць актыўна. Бязлітасна высякаліся свяшчэнныя гаі і дубровы, разбураліся месцы пакланенняў і ахвярапрынашэнняў, а на іх месцы будаваліся касцёлы.

Напрыканцы дадам, што арыгінальны тэкст Крэўскай уніі не захаваўся (ён вядомы па хроніцы Яна Длугаша). Гэта дало падставы палякам для палітычных "хітрыкаў" і спекуляцый. У XV – XVII стст., на падставе сфабрыкаванага дакумента, што выстаўляўся імі як арыгінал Крэўскага пагаднення, у гістарычнай літаратуры панавала думка нібыта 14 жніўня 1385 г. Вялікае княства ўвайшло ў склад Польшчы. Але ні ў прывілеі Ягайлы 1387 г., ні ў Востраўскім пагадненні 1392 г., ні ў Віленска-Радамскім акце 1401 г. пра інкарпарацыю княства нічагусенькі не сказана. Маўчаць пра тое гістарычныя дакументы.

Бо не быў здраднікам Ягайла і роднай краінай ніколі не гандляваў.

**Павел АБРАМОВІЧ.**

## НАМ ПІШУЦЬ...

Паважаны Мікола!

"Беларускі Дайджэст" № 8 і брашуры пра 24-ую Сустрэчу Беларусаў Паўночнае Амэрыкі атрымаў, дзякую. Брашуру разаслаў і распаўсюдзіў у Мэльбурне.

Што да брашуры, дык хочацца ведаць чаму беларусы Амэрыкі ўжываюць слова "беларусан"? Гэтае слова гучыць больш па-кітайску чым пaангельску. Навошта ўводзіць такую блытаніну ў наш цяперашні назоў? Я ведаю, што гэтай выдумкай хацелі далей адгарадзіцца ад Расеі, але гэта няўдалая выдумка, яна прыносіць больш шкоды, чым карысьці.

Калі-б на 1-м Усебеларускім Кангрэсе ў 1918 г. абвясьцілі Вялікае княства Літоўскае, дык сёньньня мы ня мелі-б ніякай блытаніны, але сталася так, што была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Няма патрэбы саромецца, выдумляць і перакручваць свой назоў — Беларусь, беларускі, беларусы...

З найлепшымі пажаданьнямі, А. Г.

Сп. Рэдактар!

Прашу зьмясьціць у Вашай газэце ліст, які быў перасланы ў "Радыё Свабода" з Менску. Ліст актуальны, а адказ на яго тыпічна саўкоўскі... але няхай чытачы самі робяць свае высновы...

Піша Барыс Крыўцоў зь Менску:

"Расейская імпэрыя адвучыла нас змагацца за сваю радзіму да апошняе кроплі крыві. Хоць і ня шчодрая яна, гэтая зямля, але корміць мяне і маіх дзяцей і ўнукаў. А таму павінны адстойваць яе, пакуль сэрца б'ецца. А ў нас, паводле маіх назіраньняў, няма тае любові да радзімы, што, для прыкладу, у Заходняй Украіне. Там, калі трэба, дык і за зброю возьмуцца – за сваіх дзяцей і за будучыню. А вы чаму баіцёся? Калі здраднік на стальцы, дык яго скідваюць вельмі простым мэтадам. Ён адзін, а нас 10 мільёнаў (ці, прынамсі, 80 адсоткаў). А чаму ў вашых перадачах не выказваецца такога жаданьня – аніводнага слова пра гэта? Баіцёся і вы, і лідэры гэтак званых "партыяў". Во як Расея навяла на вас жаху... Вы такія паслухмяныя ФСБ Расеі. Брацъ у рукі зброю (і ня толькі зброю), і бараніць сваіх дзяцей – вось што патрэбна. Будзе цяжка, але бяз гэтага павымiраем усе да аднаго. Але прыгажэй паміраць стоячы і са сьцягам продкаў сваіх. Толькі пасьля гэтага будзем звацца беларусамі",

– напісаў Барыс Крыўцоў, якому 59 гадоў і які жыве ў Менску.

Там, дзе шмат патасу й патэтыкі, заўсёды шмат пытаньняў. Калі ў старых савецкіх фільмах палітрукі з надрывам заклікалі бараніць Айчыну "да апошняе кроплі крыві", заўсёды хацелася спытаць: "*Чыёй* крыві?" Бо самі палітрукі са сваімі патаснымі лёзунгамі са штурмавымі баталёнамі ў атаку не хадзілі.

Гэтак сама і Вам, спадар Крыўцоў, хочацца задаць пытаньні: *каму* Вы прапануеце даць у рукі зброю і *чыёй* крывёю разьлічвацца?

Як адбываецца зьмена ўлады з дапамогаю зброі – чалавецтва добра ведае. Называецца гэта грамадзянскай вайною, і ня дай нам Бог перажыць нешта падобнае.

У момант, калі зьмены ўлады пажадаюць, як Вы пішаце, усе дзесяць мільёнаў беларусаў (ці хаця б 80 адсоткаў гэтае колькасьці) – гэтая зьмена адбудзецца ў выніку першых жа хоць бы адносна свабодных выбараў. Іншы, гвалтоўны спосаб захопу ўлады ёсьць злачынствам, і дзіўна, спадар Крыўцоў, што Вы дакараеце нас за тое, што мы не распаўсюджваем адпаведных заклікаў.

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ.

У жніўні мы атрымалі наступныя выданьні:

1. Nasze tysiąc lat. Z Sokratem Janowiczem rozmawia Jerzy Chmielewski. 2000, 180 бач., Беласток, Польшча

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018





Удзельнікі Беларускага Трыялёгу на Беласточчыне, ліпень 2000.

## БЕЛАРУСКІ ТРЫЯЛЁГ

**Ініцыятарам спатканьня інтэлектуалістаў з Англіі, Францыі, Швэцыі, Нямеччыны, ЗША, Беларусі і Польшчы быў сп. Сакрат Яновіч, старшыня Villa Sokratas. Сустрэча адбылася 28-30 ліпеня гэтага году ў Лапічах ля Крынак, на Беласточчыне.**

**Дасьледчыкі і перакладчыкі беларускай літаратуры размаўлялі пра яе кандыцыю. Падчас дыскусыяў гаварылася ня толькі пра самую літаратуру, але і пра праблемы беларускае меншасьці ў Польшчы. Некаторыя даклады выклікалі гарачыя спрэчкі.**

**Спатканьньне было арганізавана надзвычай добра ўваўсіх адносінах. Сп. Сакрат Яновіч даказаў, што ён ня толькі выдатны пісьменьнік-літаратар, але і ўмелы арганізатар. Наступны Трыялёг — за год...**

## З АРХІЎНАГА КУФРА...



Беларускія дзеці ў беларускай школе ў Варшаве, Польшча, у 1940 годзе.
фота: Казіміра Вярэшкі.

## Зварот Таварыства беларускай мовы да беларускіх спартоўцаў

Паважаныя беларускія алімпійцы!

Вам выпала адстойваць гонар нашай Бацькаўшчыны ў далёкай Аўстраліі. Спартыўныя традыцыі беларусаў сягаюць у часы Полацкага княства, калі быў закладзены падмурак сучасным відам спорту, а выява старажытнага герба “Пагоня” сімвалізавала не толькі вайсковую спрактыкаванасць, але і спартыўныя здольнасці нашых продкаў.

Вядома, на вялікай адлегласці ад роднага дому заўсёды хочацца мець з сабою кавалачак сваёй Радзімы, адчуваць яе падтрымку, якая надае сілаў у спаборніцтвах. Няхай жа такой часцінкай стане наша з вамі родная беларуская мова. Спадзяемся, што кожнае сказанае вамі і вашымі трэнерамі беларускае слоўка, праспяваная родная песня нададуць упэўненасці і веры ў змаганні за гонар нашай краіны.

Таварыства беларускай мовы зычыць вам перамогі і чакае ад вас цудоўных вынікаў на алімпійскіх гульнях у Сіднэі.

Жыве беларуская мова!
Жыве беларускі спорт!
Жыве Беларусь!

21 жніўня 2000 г.

## Хамы, быдла, шляхта…

Аляксандар ДУБРАВІН

Задачай *хамаў* было піць, есці і …….. . Задачай *быдла* было працаваць як вол ад раніцы да цямна, не паднімаючы вачэй да сонца. Задачай *шляхты* было паказваць, як павінны жыць свабодныя людзі.

Некалі, заміж звычайных людзей, былі і першыя, і другія, і трэція. Першыя ўмацаваліся ды набраліся сілы, другія яшчэ болей заперліся ў хамуты, а трэція ў большасці сваёй занепалі, саслаблі, скурвіліся, паддаліся і прадаліся. Першыя на прыкладзе другіх сталі паказваць астатнім, як павінны жыць людзі. Маўляў, калі яны будуць працаваць як быдла, дык будуць піць, есці і …….. , што мае быць сэнсам і шчасцем жыцця. Галоўнае, не паднімаць вачэй да сонца…

Зараз ужо цяжка дакладна вызначыць, хто з нас нашчадак хама, а хто - дзедзіч шляхціча. Дужа ўсё перамяшалася, скрывілася ды стапталася ў людской памяці ды саўдэпскай гісторыі. Возьмем, напрыклад, лукашэнкаўскага паплечніка Івана (ці можа Яна?) Пашкевіча. Носіць чалавек старажытнае беларускае шляхецкае прозвішча, а хто на самой справе? Калі глянуць на ягоныя ўчынкі з пункту гледжання інтарэсаў нацыі, дык няёмна нават і падумаць пра ягонае высокае паходжанне, бо дзедзіч высакароднага беларускага шляхціча ні за што не стане таптаць гонар сваіх продкаў у сумніцельнай кампаніі з расійскімі палкоўнікамі, не будзе аддаваць сваю радзіму на здзек маскоўскім хаўруснікам. (Страшней на свеце не было і не будзе здрады.) Таму на пытанне «А ці беларускі шляхціч Іван Пашкевіч?» трэба катэгарычна і цвёрда адказаць: «Што Вы! Барані Божа!».

А вось вам іншы прыклад. Ідзе селектарная нарада, наменклатурныя начальнікі з абласцей ледзь не цалуюць ногі свайго Вучыцеля. Лісліва яму паддакваюць, падхіхікваюць, рапартуюць. У гэтай атмасферы слова бярэ прафсаюзны дзеяч Аляксандр Ярашук. Ці гаворыць гэтае прозвішча што-небудзь складальнікам генеалагічных дрэваў? Мабыць, не. Але як шляхетна трымаецца чалавек! Як цвёрда пільнуе свой гонар! Як незалежна паводзіць сябе! І Вучыцель пачынае сам пад яго падладжвацца, драбнее, мяняе голас…

Таму зробім выснову: нам патрэбна свая, новая нацыянальная эліта. Не местачковыя хамы, быдла, бабашморгі, кабінетныя пацукі, палатачнікі, панчошнікі ды хаўруснікі. Нам патрэбныя асобы, якія на сваім прыкладзе ўвесь час паказвалі б, як павінны жыць свабодныя людзі.

**У штодзённай дрымоце і мітусьні, --**
**Не забывайце дапамагчы нашай газэце!..**

## Сп. А. Шукелойцу — 85 год...

Мы даведаліся, што 22-га ліпеня ў Гайлянд Парку, Нью Джэрзі, ЗША., адбылася імпрэза адзначэньня 85-х угодкаў ад дня нараджэньня старшыні Галоўнае Ўправы БАЗА — сп. Антона Шукелойца.

Шматлікая грамада беларусаў годна адзначыла гэтую гадавіну. Былі прамовы, музычная частка, успаміны, прынагодныя пажаданьні ды віншаваньні. Словам, усё адбылося так, як належыцца...



## Для любіцеляў музыкі...

Кампазытар Зьмітрок Яўтуховіч, які жыве ў Саўт Рывэры, Нью Джэрзі, ЗША, нядаўна выпусьціў свой альбом на кампакт-дыску (ці на касэце) пад назовам «Mystery of the Dark Ocean». Музыка ў стылі Romantic Piano & Smooth Jazz.

Дыск каштуе $10.oo плюс перасылка $1.50. Касэта — $7.50 з перасылкай.

Заказы можна замаўляць па тэл. (732) 254-3697, або праз E-mail — **di23ma@yahoo.com**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018